ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

28 сакавіка 1997 г. № 13/3889 Кошт 3 000 руб.






# *Адзін вечар — тры падзеі...*

### Па-першае.

У новай якасці афіцыйна дэбютаваў вядомы (лаўрэат міжнародных конкурсаў!) калектыў "Sonorus".

Без малога пяць гадоў існаваў ён як Мінскі абласны камерны хор. Намаганнямі свайго мастацкага кіраўніка Аляксея Шута, захопленага ідэяй адраджэння распаўсю джаных стагоддзі два таму на Беларусі капэл еўрапейскага кшталту, "Sonorus" перастаў быць проста хорам. Да яго прысуседзіўся невялікі аркестр. Мінулай восенню ўпершыню выступілі разам, выканаўшы Соль мажорную Імшу Ф. Шуберта. Было гэта ў сталічным касцёле св. Сымона і св. Алены (Чырвоным).

Неўзабаве — папаўненне вакальна-сімфанічнага рэпертуару, калядныя выступленні ў касцёле, гастрольныя вандроўкі па вобласці, дзе, як аказалася, акадэмічную музыку чакаюць і слухаюць...

І нарэшце — дэбют у Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі, з удзелам каментатара Вольгі Савіцкай, што надало канцэрту асаблівую значнасць. Саліравалі Інга Камінская, Ларыса Сладзінская, Таццяна Пятрова, Вячаслаў Руднеў, Мікола Сахацкі, габаіст Дзмітрый Кавалёў.

### Па-другое.

Прэм'ера! Новая праграма хору ды аркестра "Sonorus" выглядала самавітай, разнастайнай і... не стаміла публіку. Хаця рызыка страціць ейную ўвагу была.

*(Працяг на стар. 10 —11)*



*На здымках: камерны хор і аркестр "Sonorus"; дырыжыруе Аляксей Шут.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# КОЛА ДЗЁН

***У незалежных палітыкаў, якія ўважліва сочаць за развіццём падзей на Беларусі, за ходам інтэграцыі, галава кругам ідзе, калі спрабуюць яны прааналізаваць тое, што адбываецца ў нас апошнім часам. З дапамогай звычайнай логікі вытлумачыць нашае "палітычнае жыццё" немагчыма. Напрыклад, як зразумець раптоўную нелюбоў нашых уладаў да ўсяго амерыканскага? Альбо — адкрытае супрацоўніцтва з расійскімі апазіцыйнымі сіламі? І г.д. Словам, хоць бы ўсё тое, што супярэчыць афіцыйнай палітыцы тых, з кім збіраемся яднацца... Тлумачэнні, вядома, можна знайсці. Але будуць гэта "меркаванні наконт...", "інтэрпрэтацыя", "адзін з магчымых варыянтаў", не болей. Бо апошнім часам не пакідае думка, што там, наверсе, надта часта робяць паспешлівыя, непрадуманыя крокі, якія, адпаведна, даюць "непрадказальныя" вынікі. А таму гадаць пра тое, што будзе заўтра: адбудзецца аб'яднанне Расіі і Беларусі ці не, у нашым выпадку — безнадзейны, марны занятак. Гэта перастаў рабіць сёння нават Глоба.***

## НАМЕРЫ ТЫДНЯ

2 красавіка споўніцца год з дня падпісання дагавора аб утварэнні Супольніцтва Расіі і Беларусі. З гэтай нагоды ў Маскве павінна адбыцца сумеснае пасяджэнне парламентаў двух краін. Мяркуецца, што на ім будуць прыняты дакументы па далейшай інтэграцыі дзяржаў-суседак. Беларускі бок падрыхтаваў свае прапановы, скіраваныя на гэта. Паводле іх Супольніцтва Расіі і Беларусі павінна перарасці ў Саюз, які будзе мець агульную мяжу, сумесныя органы кіравання, адзінае грамадзянства... Кіраваць новым Саюзам павінен старшыня вышэйшага савета (гэта значыць — А. Лукашэнка), які атрымае права прадстаўляць Саюз у зносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі, весці ад імя Саюза перамовы, заключаць міжнародныя дагаворы і пагадненні, словам, цалкам кіраваць знешняй палітыкай Саюза, быць вышэй і Ельцына, і Чарнамырдзіна... Звестак пра расійскія "перадсвяточныя" прапановы пакуль не было. Але няма сумнення, што будуць яны адрознымі ад беларускіх.

## НАРАДА ТЫДНЯ

Вясна — гэта не толькі мітынгі, шэсці ды дэманстрацыі, як сцвярджае апазіцыя, вясна — гэта найперш сяўба яравых, прапашных, тэхнічных ды іншых сельгаскультур. Падрыхтоўцы да гэтай важнейшай кампаніі была прысвечана чарговая ўсебеларуская селектарная нарада, якую правёў прэзідэнт краіны. Хоць А. Лукашэнка на пачатку яе і прасіў журналістаў пазбягаць пэўных — лабавых, банальных — параўнанняў нарады з нечым іншым, але не-не ды і прыгадваліся словы Б. Ельцына, сказаныя пры іншай нагодзе: "не царское это дело" падобныя планёркі праводзіць, што ні кажы пра іх важнасць, неабходнасць і г.д.

## ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

23 сакавіка каля 7 тысяч мінчукоў сабралася вакол пляца Незалежнасці ў цэнтры сталіцы, каб адзначыць 79-я ўгодкі ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Паколькі гарадскія ўлады дазволілі правядзенне мітынгу на пляцы Якуба Коласа, людзі рушылі туды. Такім чынам атрымалася несанкцыянаванае шэсце ад аднаго пляца да другога ўздоўж праспекта Ф. Скарыны. Падчас шэсця адбылося некалькі жорсткіх сутычак яго ўдзельнікаў з міліцыянерамі і амапаўцамі. Пацярпела больш за 10 міліцыянераў, арыштавана больш за 80 дэманстрантаў. Сутычкі ўзнікалі ў асноўным тады, калі міліцыянеры спрабавалі выхапіць з натоўпу аднаго ці некалькіх удзельнікаў шэсця, альбо адабраць бел-чырвона-белы сцяг. Людзі супраціўляліся. І тады ў ход ішлі з аднаго боку дубінкі, з другога — ледзяшы ды кулакі... У гэты ж дзень сваё шэсце і мітынг правялі і беларускія жырыноўцы — ліберал-дэмакраты. У іх сцягі, якія нічога агульнага з Беларуссю не маюць, ніхто не адбіраў. Больш таго, адзін сцяг узняў над Мінскам верталёт...

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

24 сакавіка з Рэспублікі Беларусь быў высланы першы сакратар пасольства ЗША ў Мінску Серж Аляксандраў. Падставай для высылкі стаў удзел амерыканскага дыпламата ў несанкцыянаваным шэсці 23 сакавіка. У сувязі з гэтым дзярждэпартамент ЗША даслаў беларускім уладам зварот, у якім такая падстава названа "яўна лжывай", а дзеянні беларускіх улад расцэньваюцца як "яўнае парушэнне міжнародна прынятых прынцыпаў правоў чалавека". Амерыканскі бок адклікаў свайго пасла ў Беларусі К. Ялавіца для кансультацый. Нагадаем, што крыху раней ЗША адмовілі ў аказанні Беларусі фінансавай дапамогі ў памеры 40 мільёнаў долараў.

## ЗАБАРОНЫ ТЫДНЯ

З шэрагу наступстваў пасля 23 сакавіка ў асобны блок вылучаюцца падзеі, звязаныя з журналістамі і іх працай: 24 сакавіка быў пазбаўлены акрэдытацыі карэспандэнт НТВ А. Ступнікаў — за сістэматычнае "заведамае скажэнне інфармацыі пра падзеі на Беларусі", у той жа дзень карэспандэнтам расійскіх тэлеканалаў ОРТ, РТР і НТВ было забаронена перадаваць у Маскву відэаматэрыялы, на беларуска-літоўскай мяжы былі канфіскаваны відэакасеты з запісамі падзей у Мінску, якія журналісты НТВ хацелі перадаць у Вільню, там жа былі затрыманы і беларуская незалежныя выданні, што друкуюцца ў Летуве... Карэспандэнты замежных СМІ, акрэдытаваныя ў Беларусі, якім пагражае цяпер перарэгістрацыя і высылка за межы краіны за тое, што ўлады палічаць "неаб'ектыўным асвятленнем падзей", наладзілі акцыю пратэсту каля будынка Міністэрства замежных спраў Беларусі.

## АРЫШТ ТЫДНЯ

Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Генадзь Карпенка за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці 23 сакавіка быў арыштаваны назаўтра ў 17 гадзін. Як стала потым вядома, падчас "размовы ў міліцыі" з Г. Карпенкам здарыўся сардэчны прыступ і ён на "хуткай дапамозе" быў накіраваны ў шпіталь...

## ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

Ужо стала "агульным месцам" сцвярджэнне, што інфармацыю пра "неафіцыйныя" падзеі на Беларусі можна атрымаць толькі з расійскіх тэлеканалаў. Менавіта інфармацыю, а не "каментарый", "меркаванне" ці "погляд"... Так было і на мінулым тыдні. Расійскія журналісты засталіся аб'ектыўнымі, нягледзячы на тое, што на афіцыйным узроўні ім далі зразумець: "падзеі ў Беларусі — унутраная справа гэтай краіны", нягледзячы на тое, што сёння, нібыта ў інтарэсах Расіі і "вялікай палітыкі", ім трэба было б не заўважаць тое, што называецца "парушэннем правоў чалавека" ў дзяржаве, якая інтэгруецца з іх краінай...

# Без нацыянальнай ідэнтычнасці?

Апошнім разам журналісты сустракаліся з Камісіяй ВС па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе ў мінулым годзе, пры ўдзеле былога спікера С. Шарэцкага. На гэты раз (ужо ў складзе Палаты прадстаўнікоў) камісія наладзіла прэс-канферэнцыю.

Нельга сказаць, каб бакі засталіся задаволены адзін адным. Не ўсе адказы задавальнялі журналістаў, хацелася тое-сёе ўдакладніць, а то і аспрэчыць, але нас асадзілі: на сустрэчах такога роду не прынята ўступаць у дыскусію.

Кідалася ў вочы рознаскіраванасць кіраўніцтва камісіі: яно нагадвала *трох персанажаў з байкі* Крылова. Кампетэнцыя старшыні, як падалося, распаўсюджваецца толькі на навуку, бо нават простае пытанне па культуры ён спрабаваў пераадрасаваць свайму намесніку М. Шаўцову. Другі намеснік, Р. Ігнацішчаў, душою застаўся ў мінулым, бо ўвесь час апеляваў да Савецкага Саюза, палохаў нас Захадам і ЦРУ і ў якасці рашаючага аргумента прапаноўваў сваю сумнавядомую кніжачку "Разберемся: родной ли белорусам русский язык?". Ён запэўніў прысутных, што дакладна ведае дзве варожыя сілы, якія жадалі б нашкодзіць Беларусі і яе культуры. Як ні дзіўна, да адной з такіх сіл ён аднёс С. Шушкевіча і былога міністра працы А. Саснова. (Гэта пры іх заробак навукоўцаў упаў ніжэй за сярэдні.) Адчувалася, што доктар тэхнічных навук безнадзейна заблытаўся не толькі ў моўным пытанні..

З адказаў членаў камісіі, а таксама намеснікаў галіновых міністэрстваў Г. Дыляна, У. Рылаткі, першага намесніка старшыні Камітэта па навуцы і тэхналогіях. У. Нядзількі можна было зрабіць выснову, што пры ўсіх эканамічных цяжкасцях пэўныя зрухі ў культурнай сферы ёсць. І хоць дзяржаўны бюджэт нагадвае сабой калгасную карову пры канцы зімы, усё ж удалося на гэты год "выдаіць" 100 млрд дадаткова на адукацыю і 40 млрд — на культуру. Распрацоўваюцца законапраекты па нацыянальнай Акадэміі навук, інавацыйнай дзейнасці, развіцці кінематографа. Камісія плануе выйсці на цэлы кодэкс законаў. Аднак у ліку асноўных накірункаў дзейнасці У. Плецюхоў перш назваў зблiжэнне заканадаўстваў Беларусі і Расіі, а пасля ўжо кантроль за выкананнем прынятых законаў. Гэта здзіўляе, паколькі згодна новай Канстытуцыі правам заканадаўчай ініцыятывы валодае Савет Міністраў; камісіі адно і застаецца, што выступаць у ролі экспертаў ды кантралявацъ.

Прадстаўнікоў прэсы цікавілі прыярытэты ў рабоце камісіі, становішча сельскіх бібліятэк, абароненасць правоў вынаходнікаў, факты выключэння студэнтаў па палітычных матывах, увядзенне платы за школьныя падручнікі і размеркаванне выпускнікоў, развіццё шоу-бізнесу на Беларусі (на фоне бясконцых гастроляў расійскіх зорак). Адно з пытанняў тычылася мяркуемых змен у Законе аб мовах. Нам сказалі, што яны дыктуюцца вынікамі двух рэферэндумаў і будуць унесены сёлетняй восенню.

Камісія з жалем канстатавала, што сфера культуры пакуль што не стала ў нашай краіне прыярытэтнай. Са свайго боку выкажам шкадаванне, што пры адстойванні яе годнасці парламентарыі падчас залішне абстрактна ўжываюць паняцце "культура" і не звязваюць яго ні з нацыянальнай ідэнтычнасцю, ні з дэмакратыяй.

**НАШ КАР.**

# Падтрымлівай культуру, а не партыі...

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕЛАРУСКІМ ФОНДЗЕ СОРАСА

26 сакавіка, у дзень, калі па айчынным тэлебачанні ішло абмеркаванне веснавой сяўбы, Беларускі фонд Сораса запрасіў прадстаўнікоў мас-медыя на прэс-канферэнцыю. Дзіўна было б, калі б падобнага мерапрыемства не адбылося — апошнім часам знакаміты Фонд сапраўды зрабіўся "притчей во языцех", і мусіць выказаць пазіцыю адносна свайго сённяшняга становішча ў краіне. Менавіта для гэтага і была ўчынена прэс-канферэнцыя. Журналістаў азнаёмілі з заявай Беларускага фонду Сораса, першы абзац якой недвухсэнсоўна абмалёўвае сітуацыю: "Дзейнасць Беларускага фонду Сораса — рэспубліканскага грамадскага непалітычнага аб'яднання — пастаўлена пад рэальную пагрозу. Такі вынік некалькіх дзён працы ў фондзе камісіі, створанай па ініцыятыве Дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь".

Далей у заяве тлумачыцца, што сябры камісіі патрабуюць прад'яўлення дакументаў і адказаў на пытанні, якія, на думку Беларускага фонду Сораса, адносяцца выключна да яго кампетэнцыі і з'яўляюцца ўнутранай справай арганізацыі. *Тычыцца гэта перш за ўсё* мэтавага выкарыстання грантаў.

Але, як гаворыцца ў заяве, "толькі Беларускі Фонд Сораса паўнамоцны патрабаваць справаздачы ў грамадзян і юрыдычных асоб, якія атрымалі ад яго грашовыя сродкі і маёмасць на рэалізацыю разнастайных праектаў. Такое права гарантавана фонду пастановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 388 ад 21 ліпеня 1995 года і N 633 ад 20 лістапада таго ж года".

У прэс-канферэнцыі ўдзельнічалі сябры вышэйшага кіруючага органа фонду — Назіральнай рады: Святлана Алексіевіч, Валянцін Тарас, Раман Якаўлеўскі, сябар ранейшага складу Назіральнай рады Рыгор Барадулін, намеснік выканаўчага дырэктара фонду Алесь Анціпенка, які зараз, пасля высылкі з краіны дырэктара фонду Пітэра Берна, выконвае яго абавязкі, і юрыст фонду Галіна Лявонава. Апошняя ў сваім выступленні падкрэсліла, што ў нашай краіне дабрачынная дзейнасць не рэгламентавана заканадаўствам, што стварае пэўныя цяжкасці, і дала юрыдычныя тлумачэнні па заяве. В. Тарас заўважыў, што грант не можа разглядацца як даход, таму не падлягае падаткаабкладанню. Гэта грошы, якія належалі пэўнай прыватнай асобе і якімі тая асоба можа распараджацца па сваім гледжанні. С. Алексіевіч падкрэсліла вялікую ролю фонду Сораса ў падтрымцы літаратуры — менавіта дзякуючы атрыманаму гранту пісьменніца здолела выканаць цяжкую працу па зборы і падрыхтоўцы матэрыялаў да сваёй апошняй кнігі "Чарнобыльская малітва". А. Анціпенка зазначыў, што зараз блакаваны фінансавы дэпартамент фонду, і дзейнасць арганізацыі спаралізавана, а таксама распавёў пра шырокі міжнародны рэзананс, які атрымалі падзеі ў Беларусі, звязаныя з фондам Сораса. Р. Барадулін у сваім выступленні выказаўся наконт вялікай ролі фонду ў падтрымцы нацыянальнай культуры і падкрэсліў, што фонд не падтрымлівае ніякіх палітычных партый.

Ад імя фонду было таксама заяўлена, што "У крызіснай сітуацыі, якая склалася, Беларускі фонд Сораса... будзе прадпрымаць усё магчымае для абароны законных правоў многіх тысячаў беларускіх грамадзян — сваіх грантаатрымальнікаў", і выказана надзея, што фонд атрымае магчымасць працягваць сваю дабрачынную дзейнасць.

**Н. К.**

СУСТРЭЧЫ

# Спявайце, юныя паэты...

Старажытны Слуцк, які летась адзначыў 880-годдзе, не занядбаў сваіх культурных традыцый. І сведчаннем таму — злёт юных талентаў у Лучніках (у рамках Тыдня дзіцячай кнігі). На сцэну выходзілі і зусім малыя дзеці, і старшакласнікі: чыталі вершы і абразкі, прадстаўлялі іх у журы ў выглядзе прыгожа аформленых альбомаў. Госці з Мінска разам з мясцовымі паэтамі вызначалі лепшых. Усіх уразіла літаратурна-музычная кампазіцыя школьнага літаб'яднання "Журавінка" (вёска Гацук). Сама настаўніца была там за саліста і дырыжора, яна натхнёна прачытала і свае вершы.

Першае месца па выніках творчага конкурсу заняла вучаніца Гацукоўскай СШ Вольга Дубовік. А каб вы адчулі ўзровень пачаткоўцаў са Случчыны, працытуем страфу Наталлі Табалаевай (Грэск):

*Ды на прасторах ціхіх*
*У гэты цяжкі час*
*Пераадолеем мы ліха,*
*Ёсць карані у нас.*

Адпаведны настрой падтрымліваў у зале калгаснага Дома культуры ўзорны цымбальны ансамбль пад кіраўніцтвам І. Чарапко.

Злёт падрыхтаваны намаганнямі раённай бібліятэкі і аддзела культуры райвыканкама пры ўдзеле дырэктараў раённай і гарадской ЦБС Г. Шахновіч і Л. Лазоўскай.

**Г. К.**

# "Паўлінкі", "кветкі", "кароны"

Паводле звычаю, які мае ўсе падставы зрабіцца традыцыйй, Міжнародны дзень тэатра святкуецца 27 сакавіка на сцэне ды ў сценах Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. З лёгкай рукі старшыні СТД Аляксея Дударава штогадовыя крышталёвыя прызы і сёлета не засталіся без гаспадароў. За жыццё ў тэатры ўшанаваны мастак Барыс Герлаван ("Крыштальная Паўлінка"), за выйсце на міжнародную арэну — тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна" ("Крыштальная зорка"), за спонсарства і мецэнацтва — карпарацыя "Дайнова" ды віцебскі "Белвест" ("Крыштальная карона"). "Крыштальная кветка", аддадзеная акцёру купалаўскага тэатра Аляксандру Гарцуеву за рэжысёрскі дэбют, мецьме, як той цэтлік, удакладненне: уласна дэбют Аляксандра ў рэжысуры блаславіла яшчэ пазалетась "Вольная сцэна"; увасобіўся той дэбют у спектакль "Чорны квадрат". У выпадку купалаўскай "Крывавай Мэры" мы маем справу ўжо не з дэбютам, а, так бы мовіць, з плённым працягам Аляксандравай настойлівасці (пры гэтым выключна "ЛіМу" Гарцуеў прызнаўся, што рабіцца рэжысёрам ён ніколі не марыў і, па магчымасці, ніколі не зробіцца).

Імянныя прэміі сёлета атрымалі драматург Мікалай Арахоўскі (прэмія імя Кандрата Крапівы), рэжысёр Уладзімір Караткевіч (прэмія імя Любові Мазалеўскай у галіне дзіцячага тэатра), рэжысёр Барыс Луцэнка (прэмія імя Яўгена Міровіча за пастаноўкі ў драматычным тэатры), акцёр Тадэвуш Кокштыс (прэмія імя Ігната Буйніцкага) і актрыса Наталля Руднева (прэмія імя Ларысы Александроўскай).

**Ж. Л.**

●

26 сакавіка тамсама, у памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, сабраўся чарговы з'езд Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Адным з галоўных пунктаў раскладу ягонае работы было абранне старшыні. Упершыню за ўсю пяцідзесяцігадовую гісторыю беларускага саюза старшыня быў абраны адзінагалосна і ніводнага, хто б устрымаўся, таксама не налічылі. Такім чынам "старшыняваць" сярод тэатральных дзеячаў Беларусі працягвае драматург Аляксей Дудараў.

ВЫСТАВЫ

# Не спыніць, не стрымаць...

Выстава суполкі "Пагоня", што традыцыйна распачалася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі 25 сакавіка, у дзень святкавання ўгодкаў БНР, і будзе працягвацца ўсяго толькі тыдзень, па шматлюднасці падчас адкрыцця можа параўнацца з іншымі выставамі, якія адбываюцца ў дзяржаўных мастацкіх установах і недзяржаўных галерэях па некалькі на тыдзень.

Яшчэ ніколі суполка "Пагоня", якая — адзіная ў рэспубліцы — мае накірунак адкрыта нацыянальны, прапагандуе і надае афарбоўку менавіта ідэі беларускасці, не была пастаўлена ў такія жорсткія ўмовы пры фарміраванні экспазіцыі. Дакумент пад N 796 са ціплым загалоўкам "Аб парадку правядзення мастацкіх выстаў у г. Мінску", які быў прыняты Мінгарвыканкамам некалькі месяцаў таму, рэгламентуе праведзенне выстаў. Расплывістасць фармулёвак яго дае магчымасць па сутнасці забараніць любую выставу. Экспазіцыя ж суполкі "Пагоня" выклікала асаблівую ўвагу ўладаў. Перад адкрыццём яе наведалі афіцыйныя прадстаўнікі Мінгарвыканкама, Міністэрства культуры, але ўрэшце ўся адказнасць за адкрыццё была ўскладзена на кіраўніцтва Саюза мастакоў. Алесь Марачкін, старшыня суполкі "Пагоня", на адкрыцці выставы падзякаваў радзе саюза і яго старшыні Генадзю Буралкіну за тое, што яны не сталіся цэнзарамі сваіх сяброў-творцаў і што адкрыццё выставы адбылося.

На адкрыцці прысутныя маглі пазнаёміцца з карыкатурамі А. Карповіча, плакатам У. Крукоўскага, калажам на тэму прэсы Т. Маркавец, вялікай жывапіснай кампазіцыяй на макеце сцяга з галоўнымі дзеючымі асобамі нашай палітыкі А. Марачкіна, а таксама з адзінай з запланаваных інсталяцый у выглядзе дазорнай вышкі з пражэктарамі, кшталту тых, што стаялі ў сталінскіх лагерах. (На наступны дзень усе пералічаныя творы былі з выставы зняты...)

Само ж адкрыццё выставы прайшло падкрэслена святочна. Добрыя словы былі сказаны Васілём Быкавым, Анатолем Грыцкевічам, Алесем Марачкіным, прыгожа спяваў хор і хлопцы-барды.

Прадстаўнік Пэн-цэнтра К. Шэрман уручыў тры штогадовыя прэміі міжнароднага фонду Ф. Багушэвіча: М. Чарняўскаму за гістарычную аповесць "Вогнепаклоннікі", Л. Баршчэўскаму за пераклады на беларускую мову, В. Быкаву за аповесць "Пакахай мяне, салдацік" і кнігу "Сцяна"...

Ну, а экспазіцыя выставы мае і нечаканыя знаходкі, і яўныя недахопы, як, зрэшты, любая экспазіцыя, складзеная на пэўную тэматыку. У любым выпадку азнаёміцца з ёю варта, бо яна — гэта сапраўды зрэз творчасці беларускіх мастакоў, якія, кожны ў сваёй манеры і стылі, сцвярджаюць годнасць беларусаў і Беларусі.

**Н. Ш.**

*Ліст у рэдакцыю*

# Драма на лесвіцы БАМ

У пятніцу 14 сакавіка 1997 года ў 17.00 на лесвіцы, каля галоўнага ўвахода ў Беларускую акадэмію музыкі, адбылася сапраўдная драма. Яе ўдзельнікамі сталі ні ў чым не вінаватыя людзі. Былі схоплены міліцыяй студэнты і выкладчыкі, якія знаходзіліся на ёй у той ракавы час (17.00). Пры нашым "затрыманні" не было прад'яўлена ніякай пераканаўчай прычыны для арышту, ніхто з работнікаў міліцыі не назваў сябе. Мы былі не проста арыштаваны, сяму-таму з нас былі нанесены і фізічныя траўмы.

Людзей, якія нічога не разумелі, што з імі робяць, вазілі па розных аддзяленнях міліцыі. Скончылася ўсё ў Ленінскім РАУС. Там нас пратрымалі каля трох гадзін, пасля чаго, не папрасіўшы нават прабачэння і зноў нічога не растлумачыўшы, адпусцілі групамі па чатыры чалавекі.

Самае страшнае, што мы аказаліся вінаватымі толькі ў тым, што стаялі на парозе ўласнай навучальнай установы. Сярод арыштаваных аказаліся студэнты, якія чакалі лекцый, выкладчыкі, якія пасля працоўнага дня вярталіся дадому і затрымаліся, пабачыўшы нязвычна вялікую колькасць міліцыянераў; тыя, хто выйшаў на перакур, і тыя, хто проста стаяў і размаўляў на акадэмічнай лесвіцы, дзе традыцыйна заўсёды людна.

Само сабою, ніхто з нас не думаў і супраціўляцца. Да пятніцы 14 сакавіка нікому з нас і ў галаву не прыйшло б, што сярод белага дня людзей зусім ні за што міліцыя можа арыштаваць незалежна ад іх полу, узросту і сацыяльных поглядаў, а пасля пратрымаць некалькі гадзін у пастарунку.

Аднак жа гэтая ганебная акцыя адбылася, адбылася на лесвіцы Акадэміі музыкі, і мы былі яе сведкамі і ўдзельнікамі.

**Валеры ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**дацэнт Акадэміі музыкі,**
**лаўрэат Усесаюзнага**
**конкурсу;**
**Аляксандр ІВАНОЎ,**
**выкладчык акадэміі, лаўрэат**
**Міжнародных конкурсаў;**
**Галіна КАЛЯДА, выкладчык;**
**Наталля ПАНАСЮК,**
**старшы выкладчык.**

РЭПЛІКА

# Парадавацца б, ды толькі...

Паведамленне, што з'явілася ў панядзелак у газеце "Вечерний Минск", здавалася б, дае ўсе падставы для радасці: Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт прыняў рашэнне перайменаваць праезд "Станцыя Таварная", на месцы якога ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя знаходзіўся Брэст-Літоўскі вакзал, у вуліцу "Брэст-Літоўскую", калектыву трэста "Гардармеханізацыя" даручана не проста зрабіць таблічкі з новай назвай вуліцы, а падаць тэкст іх на беларускай мове.

Яно то так, але... Пройдзешся стольным Мінскам і па-ранейшаму адчуванне такое, што знаходзішся ў не беларускім горадзе. Мала таго, што ў назвах вуліц сустракаеш прозвішчы людзей, якія выступалі супраць беларускасці. Да ўсяго ўвекавечана і памяць тых, хто ўвогуле да Беларусі ніякага дачынення не мае. Атрымліваецца, што крок, зроблены сталічнымі ўладамі па перайменаванні праезда "Станцыя Таварная" — толькі выключэнне. А выключэнне, якім бы яно прыемным ні было, застаецца ўсяго-наўсяго... выключэннем.

**Дз. ІВАК**

АДГАЛОСКІ

# Вясна-97. Пачатак і працяг

Летась "Мінская вясна" распачалася святкаваннем Дня Канстытуцыі. Сёлета — на дзень раней, акцыяй "Беларусь у Еўропу — 2". Мінская моладзь мела намер наладзіць маніфестацыю каля пасольстваў заходніх дзяржаў, выказаць цёплыя пачуцці краінам сталых дэмакратый. Як вядома, улады спынілі акцыю на самым пачатку...

15 сакавіка на плошчу Якуба Коласа многія прыйшлі не толькі дзеля свята, але і каб такім чынам выказаць сваю салідарнасць з пацярпелымі днём раней. Улады і грамада адзначылі свята па-рознаму. На афіцыйным узроўні да яго паставіліся як пры Кебічы (і пазней) да Дня Незалежнасці. Не адзначыць — нельга: усё ж такі свята дзяржаўнае, але і акцэнтаваць на ім увагу — не хочацца. Бо "незалежнасць" гэтак жа кепска стасуецца з "інтэграцыяй", як "канстытуцыя" з палітычнымі рэаліямі Беларусі. Таму не было ўрачыстага рэспубліканскага сходу, а толькі гарадскі. І адбываўся ён не ў Палацы спорту, Оперным тэатры альбо Дзяржфілармоніі, а ў Палацы культуры чыгуначнікаў, чый статус значна ніжэйшы.

Гаворачы "канстытуцыя", прадстаўнік рэальнай улады і апазіцыянер маюць на ўвазе розныя дакументы. Адзін — тое, што з'явілася на свет летась, другі — прынятую Вярхоўным Саветам у сакавіку 1994 года Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Улада апелюе да Расіі, якая лічыць "пасляэферэндумныя" палітычныя наватворы ў Беларусі легітымнымі, апазіцыя — да сусветнай супольнасці, якая мае думку цалкам супрацьлеглую. З беларускага палітычнага лексікону неяк знікла вельмі папулярнае ў першыя гады Незалежнасці слова "згода", усё часцей гавораць пра "нацыянальны супраціў". У шэрагах дэманстрантаў і ўдзельнікаў мітынгу ля Палацу спорту і блізка не было таго, што называюць "беларускай памяркоўнасцю".

Параўноўваючы тое, што было год назад, і тое, што адбылося днямі, я зрабіў бы выснову, што вуліца становіцца суб'ектам палітыкі, і палітык, які будзе ігнараваць гэтую акалічнасць, рызыкуе апынуцца, як кажуць, "на вуліцы". Вулічная дэмакратыя ўжо мае сваіх герояў і ў хуткім часе вылучыць нацыянальнага лідэра.

Падзеі на мінскіх вуліцах і плошчах 20 і 23 сакавіка, мяркую, даводзяць, што працэс ідзе менавіта ў гэтым кірунку. Бо інтарэсы вуліцы ўладай ігнаруюцца ўсё больш адкрыта і цынічна. 20 сакавіка на плошчы Якуба Коласа пабралі студэнтаў, што прыйшлі пратэставаць супраць аднаўленага прымусовага размеркавання. Дарэчы, студэнты — прыхільнікі "свабоднага дыплома" цалкам маюць рацыю: навошта ім губляць час на заводах, якія стаяць, і ва ўстановах, дзе толькі перакладваюцца паперы? А тым болей, чаго яны не бачылі ў Чарнобыльскай зоне! Тут бы і прыслухацца... Але, як звычайна, на студэнтаў наслалі АМОН.

Трыма днямі пазней улады дзейнічалі па тым жа сцэнарыі, але гэтым разам міліцыянты атрымалі рашучы і арганізаваны супраціў. Здаецца, да грамады дайшла вядомая ісціна, што абараняцца заўжды больш бяспечна, чым уцякаць.

І ці трэба звяртацца да сумлення Расіі? Леташні палітычны крызіс у Беларусі Расія вырашыла на сваю карысць. Расія — адзіная ў свеце краіна, якая прызнала "рэферэндум" і ягоныя вынікі легітымнымі. І Расія зноў аказалася вернаю сваім інтарэсам. З блізкага асяроддзя прэзідэнта РФ прагучалі заявы, што тое, што адбываецца на мінскіх вуліцах, гэта ўнутраная справа Беларусі, і на "інтэграцыйныя" планы кіраўніцтва Расіі ніякім чынам не ўплывае.

Моладзь на мінскіх вуліцах усвядоміла неабходнасць супраціву, а палітыкі старой генерацыі ўсё яшчэ спадзяюцца на паразуменне з былым "старэйшым братам". У вуліцы розныя інтарэсы не толькі з уладай, але і з тымі, хто восенню 1996 года ўладу страціў і, на жаль, не зрабіў з гэтага ніякіх высноў.

За памылкі генералаў заўжды расплачваюцца простыя жаўнеры, але менавіта простыя жаўнеры і выратоўваць краіну ў скрушныя часы. Нацыянальны лідэр прыйдзе ў палітыку з мінскай вуліцы і пры яе падтрымцы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ЭКСЛІБРЫС

# "Арыштаваны ў высылцы"

*У. Міхнюк. Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. БелНДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. Мн., 1996.*

**Хочаце, я вам распавяду цікавую гісторыю пра беларускага паэта. Пачаў ён пісаць у 20-х гадах, далучыўся да беларушчыны ў гуртку "Беларуская Хатка", дзе пад выглядам мастацкай самадзейнасці прышчаплялі любоў да гэтай беларушчыны, і як мог імкнуўся мацаваць яе. Менавіта таму ён упарта адпіхваўся ад расейшчыны. Паэтам ён быў таленавітым і хлопцам энергічным, таму і стаў адным з кіраўнікоў "Маладняка". Як ён згадвае, "У сярэдзіне 1926 года мы збіраліся выдаць сябрам "Маладняка" новыя білеты. У гэтых білетах тэкст быў пададзены на беларускай і на... французскай мовах". Гэта была ягоная задумка, толькі б падалей ад расейшчыны. І чаго толькі ён так не любіў яе...**

**Камсамольцам ён быў не надта каб заўзятым. Яго нават выключылі з камсамола, бо не плаціў узносы. А яшчэ ён са сваімі двума сябрукамі, таксама пісьменнікамі, у знак пратэсту супраць фармальнай беларусізацыі Беларускага універсітэта напісалі адкрыты ліст і пакінулі вучобу, хапелі ехаць вучыцца на Украіну. А потым напісаў ён адзін верш, які быў асабліва папулярным у народзе і шпарка разыходзіўся ў рукапісах. Ды такі верш, што ім шчыльна зацікавілася ДПУ (гэта тое, што цяпер КДБ).**

**А што было потым? Угадалі. Вобыск. Толькі не трэба ніякіх паралеляў. Гэта ж было так даўно. І вось, у пратаколе за 1929 год чытаем: "взято для доставки в Госполитуправление Белоруссии следующее: 19 стихов, писаных на белорусском, и три письма". Паэта пасадзілі ў турму НКУС. У. Міхнюк, аўтар кнігі, нават не вытрымаў: "О, бедны мой народзе! Ты не меў сваіх следчых і пракурораў, і нават не меў сваіх катаў. Іншародцы над табой уладарылі, яны цябе і каталі". Ізноў жа, не трэба ніякіх паралеляў. Што было, тое было.**

**Калі ў паэта органы запатрабавалі тлумачэнняў, дык ён аўтарства прызнаў і гэтак іранічна патлумачыў: "прад'яўлены мне верш... напісаў я ў прошлым годзе ў сябе дома, будучы ў нятрэзвым становішчы". Дарэчы, усе свае тлумачэнні ён асмельваўся пісаць па-беларуску.**

**Пакуль органы разбіраліся, вырашылі "мераю паўстрымання супраць абвінавачанага... абраць падпіску аб нявыездзе з г. Менску, аб чым і абвясціць". Не, не трэба ніякіх паралеляў. Далей усялякае падабенства сканчаецца. Гэта не гісторыя пра сённяшняга Славаміра Адамовіча, а пра колішняга Алеся Дайлідовіча, ці Дудара — такі ягоны псеўданім.**

**Выслалі Алеся з Беларусі на тры гады ў Смаленск. Потым адзін з "сачкомаў" (так іх называлі тады) данёс: "некалькі членаў партыі: рэдактар "Савецкай Беларусі" Чарот, Зарэцкі, Іллючонак удзельнічалі ў развітальнай выпіўцы з прычыны высылкі Дудара на кватэры аднаго беспартыйнага нацыяналіста"... А верш той называўся "Пасеклі наш край папалам" і былі там такія радкі: "За ўсходнім дэспатам-царком Мы бегаем на задніх лапках, Нью-Йорку грозім кулаком І Чэмберлена лаем трапна... Не смеем нават гаварыць І думаць без крамлёўскай візы..."**

**Але досыць, не трэба паралеляў, не трэба!**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Свята кнігі

У Мінскай абласной дзіцячай бібліятэцы імя Я. Маўра адбылося свята дзіцячай кнігі.

На сустрэчу з юнымі чытачамі прыйшлі навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН РБ, пісьменніца Ірына Багдановіч, рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва "Юнацтва", паэт Уладзімір Мазго, радыёжурналістка Галіна Шаблінская.

Госці пазнаёмілі прысутных з навінкамі беларускай літаратуры, прачыталі ўласныя творы. З цікавасцю слухалі школьнікі вершы і казкі, разгадвалі загадкі. А самыя актыўныя атрымалі ў падарунак кнігі з аўтографамі пісьменнікаў.

Н. К.

## "Беларускі Кнігазбор" будзе папаўняцца

Днямі адбылося пашыранае пасяджэнне рэдакцыйнай рады "Беларускага Кнігазбору". "БК" — гэта вялікая бібліятэчная серыя, заснаваная летась з ініцыятывы К. Цвіркі, якая будзе знаёміць айчыннага чытача з найбольш важкімі скарбамі нашай нацыянальнай літаратурнай спадчыны і з творамі тых пісьменнікаў, якія пісалі пра Беларусь.

Пашыранае пасяджэнне рады "БК" было прысвечана абмеркаванню двух першых кніг, што пабачылі свет у "залатой" кнігавыдавецкай серыі. Гэта тамы выбраных твораў Яна Чачота і Максіма Багдановіча.

На пасяджэнні выступілі Я. Брыль, Н. Гілевіч, І. Шамякін, С. Андраюк, У. Арлоў, В. Зуёнак, У. Казбярук, А. Ліс, А. Мальдзіс, І. Саверчанка, В. Чамярыцкі і інш. Апроч абмеркавання выдадзеных кніг, размова зайшла пра бліжэйшыя планы.

На падыходзе творы Я. Баршчэўскага, А. Гаруна, У. Жылкі, Цёткі, А. Ельскага, К. Чорнага, Э. Ажэшкі, Ю. Крашэўскага, А. Міцкевіча, творчая спадчына І. Дамейкі і інш.

Усяго мяркуецца выпускаць да паўдзесятка кніжак штогод.

Вёў пасяджэнне галоўны рэдактар рэдакцыйнай рады "Беларускага Кнігазбору" пісьменнік Кастусь Цвірка.

ЯНУШ.

## Папаўненне серыі

"Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры", якую ў дзесяці тамах выпускае выдавецтва "Юнацтва", папоўнілася чарговай, трэцяй па ліку кнігай "Не сілай, а розумам". Цудоўна аформлены мастаком В. Александровічам томік увабраў казкі пра жывёл і сацыяльна-бытавыя. Уклаў яго кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі А. Гурскі. Да канца года юныя чытачы атрымаюць яшчэ адзін том з гэтай серыі — "Чароўная дудка", у які ўвойдуць лепшыя драматургічныя творы (укладанне — С. Лаўшука).

Н. К.

## Дом літаратара запрашае...

Якая яна, проза, што адносіцца да так званага "малога жанру"? — гаворка пра гэта пойдзе на сумесным пасяджэнні секцый прозы і крытыкі "Апавяданне - 96", якая пачне работу 9 красавіка ў 15 гадзін. Надзённыя пытанні абмяркуюць таксама і іншыя секцыі: паэзіі — 17 красавіка, літаратуры для дзяцей і юнацтва — 23 красавіка, перакладу — 24 красавіка. Пачатак іх работы таксама ў 15 гадзін.

"Вечны вандроўнік" — так называецца вечарына па слядах пленэра, прысвечанага мастаку і пісьменніку Я. Драздовічу, запланаваная на 9 красавіка.

Абанементны спектакль тэатра "Зніч" з удзелам У. Арлова "Адкуль наш род" адбудзецца 16 красавіка.

Прыхільнікі таленту саліста Беларускага ансамбля народнай музыкі, песні і танца "Вяселле" М. Пацука могуць сустрэцца з ім 18 красавіка.

А 23 красавіка паспяшайцеся паглядзець мастацкі фільм "Шэльма".

УСЕ ГЭТЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАЧЫНАЮЦЦА Ў 16 гадзін 30 хвілін.

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў

*Адбылося чарговае пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. На ім у члены саюза былі прыняты:*

АРТХАНАЎ Глеб (Аляксееў Юрый Ігаравіч). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў горадзе Ніжнеўдзінску Іркуцкай вобласці (Расія).

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Первая встреча" (1989), выдаў кнігу паэзіі "Огненный ворон" (1990). Шмат перакладае з беларускай мовы на рускую.

ВАЙВАДЗІШ Эдвард Людвігавіч. Нарадзіўся ў 1897 годзе ў вёсцы Вайвады колішняга Дрысенскага павета Віцебскай губерні (цяпер Латвія).

Літаратурную працу пачаў у 1926 годзе, прымаў актыўны ўдзел у беларускім культурна-асветніцкім руху.

Творчасць Э. Вайвадзіша найбольш плённа прадстаўлена ў яго кнізе "Вершы, паэма, загадкі", выпушчанай у 1996 годзе Нацыянальна-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны ў серыі "Творцы беларускага замежжа".

ВАЛОДЗЬКА Станіслаў Віктаравіч. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна.

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Сцяжына".

Выдаў кнігу паэзіі "У вачах Айчыны" (1996).

ВАРАТЫНСКАЯ Галіна Аляксандраўна. Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Воўча Ушацкага раёна.

Аўтар кнігі "З будзённасці ўзляцець..." (1995).

ГУРСКІ Васіль Рыгоравіч. Нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Замошша Уздзенскага раёна.

Аўтар кніг прозы "Жывы падарунак" (1974), "Ля вытокаў Нёмана" (1981), шэрагу зборнікаў, якія выйшлі ў Нясвіжы і Уздзе.

КАВАЛЁВА Ніна Дзмітрыеўна. Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Еськаўка Дрыбінскага раёна.

Аўтар кніг "Первая встреча", "У кого какие сны", а таксама зборнікаў, што выйшлі ў Горках.

ЛЬВОВІЧ Мая Давыдаўна. Нарадзілася ў 1933 годзе ў Адэсе (Украіна).

У яе перакладах выйшлі кнігі А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка "Я з вогненнай вёскі...", І. Мележа "Завеі, снежань", Я. Брыля "Золак, убачаны здалёк"... Пераклала творы дзесяткаў беларускіх паэтаў. Кніга М. Львовіч "Цяпельца. Вогнік" у 1996 годзе выйшла ў Харкаве адначасова на беларускай і ўкраінскай мовах.

ЛЯШОНАК Тамаш (Фама Васільевіч). Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Галубычкі Глыбоцкага раёна.

Аўтар кнігі паэзіі "Запозненыя дар" (1995). Многія вершы Т. Ляшонка пакладзены на музыку.

МАРЦІНОВІЧ Наталля Дзмітрыеўна. Нарадзілася ў 1953 годзе ў Ленінградзе (Расія).

Аўтар кнігі паэзіі "Вечаровы твар" (1994).

ЛУКША Міра (Міраслава Янаўна). Нарадзілася ў 1958 годзе ў Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства (Польшча).

Аўтар кніг: паэзіі — "Замова" (1993), "Есць" (1994), прозы — "Вялікі птах верабей" (1992), "Выспа" (1994).

ЧАРНЯЎСКІ Міхась Міхайлавіч. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна.

Аўтар гісторыка-краязнаўчых кніг "Страла Расамахі" (1985), "Вогнепаклоннікі" (1991,1996), шэрагу манаграфій, артыкулаў па пытаннях беларускай археалогіі і гісторыі.

ЦІШЧАНКА Іван Кірылавіч. Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Улукі Слаўгарадскага раёна.

Выдаў кнігі, манаграфіі "Беларуская частушка. Вытокі жанру" (1971), "Жыццё песні" (1984), "Да народных вытокаў" (1986). Аўтар сцэнарыяў дакументальных поўнаметражных фільмаў "Бывайце здаровы" (1981), "Песня на ўсё жыццё" (сааўтар А. Ліс, 1986), "Вяртанне Міхася Забэйды" (сааўтар Г. Марчук, 1990).

ШАБАЛТАС Васіль Канстанцінавіч. Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Курыцічы Петрыкаўскага раёна.

Адзін з аўтараў калектыўнай кнігі прозы "Знакомство" (1982, Тула), выдаў кнігі "Экзамен" (1984) і "Плата за страх" (1994).

ШАХОВІЧ Мечыслаў Зянонавіч. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна.

Адзін з аўтараў калектыўнага паэтычнага зборніка "Рунь" (1970). Выдаў кнігі "Па загаду сэрца" (1975), "Паклон зямлі" (1979), "Бераг дабрыні" (1990) і іншыя.

ШУШКО Анатоль Іванавіч. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна.

Аўтар кнігі паэзіі "Выток і прычасце" (1994).

НОВАЕ

# На пачатку шляху

Новых перыядычных выданняў апошнім часам, як вядома, з'яўляецца шмат. Па розных прычынах не ўсе яны трапляюць у поле зроку. Гэта, бадай, можна сказаць і пра "Гуманітарна-эканамічны веснік" — навукова-тэарэтычны часопіс, які з чэрвеня мінулага года выдаецца Гуманітарна-эканамічным недзяржаўным інстытутам, адной з першых вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь камерцыйнага профілю. У інстытуце рыхтук цы будучых эканамістаў і палітолагаў, пр: ваведаў і сацыёлагаў, псіхолагаў і мовазнаўцаў, гісторыкаў і географаў, банкіраў і камерсантаў.

І веснік разлічаны на іх, будучых высокакваліфікаваных спецыялістаў. Але не толькі на іх, а на ўсіх, хто неабыякавы да... нацыянальнага адраджэння.

Летась пабачылі свет першыя тры нумары "Гуманітарна-эканамічнага весніка". Думаецца, лімаўскі чытач таксама зацікавіцца іх зместам, бо яны варты ўвагі.

У першым нумары, для прыкладу, у раздзеле "Гісторыя" апублікаваны артыкулы А. Алпеева і І. Раманоўскага "Аб курсе "Гісторыі палітычных партый" у ВНУ", А. Багдановіч — "Канцэпцыя аўтаноміі ў грамадска-палітычным руху Беларусі (сакавік—кастрычнік 1917 г.)", У. Коршука і Р. Платонава — "Партызанская вайна і яе вынікова сць", А. Мяснікова — "Леў Сапега. "Айцец Айчыны" залатога веку". У іншых раздзелах прапануюцца такія матэрыялы, як "Беларуская мова ў дваццатым стагоддзі" А. Жураўскага, "Аб некаторых абмежаваннях пазнавальнай дзейнасці студэнтаў у працэсе фарміравання іх нацыянальнай самасвядомасці", А. Елсукова "Станаўленне і развіццё сацыялагічнай думкі Беларусі", А. Кучко "Інтэрв'ю як метад збору сацыялагічнай інфармацыі"...

У другім нумары артыкул Г. Лыча і В. Шчэрбіна "Гуманітарныя і сацыяльныя навукі ў акадэміях краін СНД" адкрывае новы раздзел "Актуалії". У ім прадстаўлены таксама Л. Яўменаў і Ю. Гусеў ("Дыялектычны розум і палітычнае вар'яцтва"), А. Алпеева і Я. Яскевіч ("Палітычная рызыка і культура ўладных адносін ва ўмовах сацыяльнай нестабільнасці"). У раздзеле "Гісторыя", несумненна, зацікавіць публікацыя В. Скалабана "Усебеларускі з'езд: "Выратавальная" прамова А. Вазілы". Змешчана таксама і прадмова Я. Канчара да яе. У гэтым нумары "Гуманітарна-эканамічнага весніка" знайшлося месца артыкулам С. Падокшына "Канцэпцыя гісторыі Беларусі Мацея Любаўскага", А. Тогулева "Утварэнне і дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грамады", Н. Кутузавай "Праблемы нацыянальнай ідэі ў палемічнай літаратуры Беларусі першай плавіны XVIIст.", У. Гніламёдава "Ці ёсць будучыня ў літаратуразнаўстве?"...

Багаты на значныя матэрыялы раздзел "Гісторыя" трэцяга нумара: "Крывавая старонка 1937-га" А. Мяснікова, "Этнаканфесійная сітуацыя на сучасным Палессі" В. Каліноўскага, "Да пытання аб стракалытаўскім мецэжы" М. Гудава, "Нацыянальная палітыка "Бунда" і іншых яўрэйскіх арганізацый на Беларусі ў гады першай сусветнай вайны (1914—1918 гг.)". А ў раздзеле "Філалогія" выступаюць: В. Каваленка ("Сацыяльная воля чалавека і гістарычныя магчымасці часу ў літаратуры нашаніўскай пары "Магіла льва" Янкі Купалы і "Антон" Максіма Гарэцкага"), Л. Антанюк ("Панящці "тэрмін", "тэрміналогія" і праблемы развіцця сучаснай беларускай тэрміналогіі"), А. Карлюкевіч ("Прысутнасць беларускай культуры ў Кіргізіі"). Прадстаўлены раздзелы "Актуаліі", "Філасофія", "Паліталогія", "Сацыялогія".

А. АН-ЕВІЧ

ВЕЧАРЫНЫ

# Ягоная спадчына — вучні...

Прайшло амаль 5 гадоў, як пайшоў ад нас Юрый Логінаў — выдатны музыкант, яскравы выканаўца і таленавіты педагог. Яго творчая дзейнасць была непарыўна звязана з фарміраваннем і развіццём на Беларусі годнай школы выканання на валторне. У пачатку 1997 года яму споўнілася б 60...

Справу свайго настаўніка ў нашай рэспубліцы і за яе межамі працягваюць вучні — выкладчыкі і выканаўцы, для якіх Юрый Піліпавіч быў і застаецца ва ўспамінах блізкім і родным, строгім і добрым сябрам. 60-годдзю з дня нараджэння Ю. Логінава прысвячаўся канцэрт, наладжаны ў зале Акадэміі музыкі, у атмасферы сяброўскай цеплыні і павагі.

Успамінаючы Юрыя Піліпавіча, Мікалай Волкаў, які цяпер узначальвае кафедру медных духавых інструментаў акадэміі, адзначыў складанасць і драматычнасць яго жыццёвага шляху. Страта бацькоў у гады вайны, выхаванне ў Магнітагорскім дзіцячым доме, дзе ўпершыню адбылося знаёмства з музыкай, заканчэнне музычнага вучылішча па класе валторны з адзнакай, сустрэча з В. Буйноўскім — таленавітым пецярбургскім музыкантам і выкладчыкам, — усё гэта пэўным чынам паспрыяла выбару прафесіі. Але надзеі змяняліся расчараваннем, і толькі настойлівасць і апантанасць вучня разам з прафесіяналізмам педагога ўдасканальвалі майстэрства, што дазволіла Ю. Логінаву пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі стаць салістам аркестра Акадэмічнага тэатра оперы і балета.

За час працы ў тэатры Юрый Піліпавіч атрымаў вялікі выканаўчы вопыт, які дапамог сфарміраваць новы падыход да прафесійнай падрыхтоўкі і выхавання вучняў. Гэта быў музыкант, які спрыяў станаўленню і развіццю беларускай выканальніцкай школы валтарністаў. Таленавіты выкладчык, Ю. Логінаў падрыхтаваў больш за 50 спецыялістаў, сярод якіх заслужаны артыст Беларусі дацэнт Акадэміі музыкі Ч. Юшкевіч, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу Ю. Акімаў, лаўрэат усесаюзнага конкурсу І. Тамела, лаўрэаты міжрэспубліканскага конкурсу А. Мілюцін, В. Васілеўскі, С. Галуза.

Юбілейны вечар не абышоўся без музыкі, галоўная роля ў якой належала валторне. На пачатку прагучаў Духавы квартэт для трох валторнаў і ўдарных К. Цесакова, прысвечаны Ю. Логінаву (выканаўцы Ч. Юшкевіч, І. Галінскі, Д. Понтус). Наогул, была прадстаўлена музыка кампазітараў розных эпох і стыляў: Й. Гайдна, Т. Альбіноні, Р. Штрауса, К. М. Вебера, Д. Расіні, Р. Глэра, Г. Ермачэнкава. Кола выканаўцаў — удзельнікаў канцэрта было вельмі вялікае: гэта і актэт салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі (мастацкі кіраўнік Б. Нічкоў), і выкладчыкі Ч. Юшкевіч, Т. Заслонава, і студэнты акадэміі А. Кавалінскі, С. Мікуліч, С. Тупіцын, Г. Шароткін, Д. Альшэўскі ды інш.

Бясспрэчна, такі мемарыяльны вечар мае вялікае эстэтычнае і выхаваўчае значэнне. Можа, гэта пачатак пэўнай традыцыі? Бо, паводле слоў прафесара Б. Нічкова, спадчына Ю. Логінава — гэта ягоныя вучні, якія захоўваюць павагу да свайго настаўніка, эрудзіраванага і таленавітага музыканта, абаяльнага і душэўнага чалавека. А, значыць, Юрый Піліпавіч застаецца сярод нас — у памяці вучняў, у музыцы, якую яны выконваюць, у іх любові да мастацтва.

Яўгенія МАЦКЕВІЧ

# Не залежаць ад чужой волі

## ЯКУБ КОЛАС ПРА ІНТЭЛІГЕНЦЫЮ І ІНТЭЛІГЕНТНАСЦЬ

**Ч**ЫМ ДАЛЕЙ адыходзім мы ад таго дня, калі ўпершыню загаварыла мастацкае слова Якуба Коласа, тым усё больш пераконваемся ў яго неўміручай, жыватворнай і мудрай, настаўніцкай сіле. Тое шырокае кола праблем і пытанняў, што ўзнімалася Коласам шмат гадоў назад, адгукаецца жывым, вельмі надзённым голасам сёння і, трэба, меркаваць, не страціць філасофска-эстэтычнага патэнцыялу заўтра.

Кожны новы перыяд гісторыі ў найбольш спелых і дальнабачных духоўна-інтэлектуальных памкненнях адчувае вострую патрэбу далучыцца да класікі, каб з яе дапамогай больш пэўна вызначыць арыенціры далейшага руху і не адсунуць на задні план пытанні, якія на самай справе павінны знаходзіцца ў цэнтры засяроджанай грамадскай увагі.

Мастацкае слова Я. Коласа запрашае і нават заклікае сур'ёзна задумацца і паразважаць над праблемай інтэлігенцыі і інтэлігентнасці, хоць праблема гэтая быццам бы не такая ўжо новая: яна неадночы ставілася і цікава, грунтоўна асэнсоўвалася ў цэлым шэрагу публіцыстычных, філасофскіх і літаратуразнаўчых прац. Аднак далёка і далёка не ўсё тут высветлена нават у вызначэнні саміх паняццяў **і н т э л і г е н ц ы я і і н т э л і г е н т н а с ц ь**, і тым болей у даследаванні складанай і тонкай узаемазалежнай сувязі паміж імі.

Дык што ж гэта такое **і н т э л і г е н т н а с ц ь** у адносінах да паняцця **і н т э л і г е н т**? І інтэрпрэтацыі названага пытання існуе вельмі багаты спектр самых розных меркаванняў і "розначытанняў". Асабліва шмат такой разнастайнасці наглядаецца на шляху пошукаў дамінантнай, стрыжнявой рысы, якая вызначае тыпалагічную сутнасць характару гэтай асобы. Намацаць дакладны, найбольш верны шлях наблiжэння да ісціны і тут нам зноў-такі могуць дапамагчы непахісны аўтарытэт літаратурнай класікі.

Галоўным інтэлігентам сваёй краіны часта называецца, напрыклад, у расійскім друку вядомы вучоны-філолаг Д. Ліхачоў. Нядаўна яму споўнілася 90. На адным з публічных выступленняў яго папрасілі даць вызначэнне інтэлігента, і ён, крыху сумеўшыся, адказаў, што "інтэлігентам нельга прыкінуцца і асабліва яму не пасуе прытварацца". Інакш кажучы, у інтэлігенцкую кагорту ён найперш залічае не нейкіх там вытанчаных інтэлектуалаў-эрудытаў (хоць ні інтэлектуальнасць, ні эрудыцыю ён, вядома ж, не адмаўляе), а тых, хто, нягледзячы на самыя моцныя кан'юнктурныя вятры, сцюжы і завірухі, умее захоўваць у сабе духоўную, маральную чысціню, застаючыся сумленным, праўдзівым і прынцыповым чалавекам.

Не выключана, што такую, з даволі празрыстым палемічным падтэкстам думку падказалі і паспрыялі сфармуляваць яму самі падзеі апошніх гадоў, у складаным, палітызаваным і папулісцкім калейдаскопе якіх пэўная частка інтэлігенцыі займала (ды і займае) трывалае першае месца ў імітацыйных гульнях і грамадскім прытворстве.

Чалавечую адкрытасць, шчырасць і сумленнасць Я. Колас таксама ацэньвае па вельмі высокім бале. Але ў адрозненне ад Д. Ліхачова цэнтральнай духоўна-псіхалагічнай і характарыстычнай рысай інтэлігента выступае ў яго няўхільнае імкненне чалавека стварыць навокал сябе ўстойлівую аўру крытычнасці, садзейнічаць усталяванню і паглыбленню ў людзей самастойнага, не падуладнага ніякаму дагматычнаму і дэмагагічнаму націску ўзважанага і мудрага погляду на рэчаіснасць.

Гэта вельмі важная для самога Я. Коласа і ягоных герояў-інтэлігентаў (ды і не толькі інтэлігентаў) праграмная лінія жыцця атрымала пераканальную мастацкую аргументацыю і распрацоўку ў трылогіі "На ростанях", паэме "Сымон-музыка", "Казках жыцця" і ў шэрагу іншых твораў. На самым пачатку сваёй настаўніцкай працы галоўны герой трылогіі "На ростанях" Андрэй Лабановіч з усяго мноства хвалюючых яго праблем і пытанняў на пярэдні план вылучае такі вось свой намер: "...Абудзіць у вучнях і выклікаць да дзеяння крытычны розум, каб да кожнай з'явы і факта яны падыходзілі з пытаннямі — як вынiклі? у чым іх прычыны? І, наогул, каб да ўсяго падыходзілі свядома. У гэтым абуджэнні крытычнае думкі Лабановіч бачыў пачаткі таго вялікага сацыяльнага зруху, які павінен пралажыць прасторную дарогу да новых форм жыцця. Бо калі чалавек пачне разважаць, дашуквацца прычын таго стану, у якім ён знаходзіцца, ён, напэўна, не пагодзіцца са сваёю доляй і будзе старацца адваяваць сабе лепшае месца на свеце. І калі ў чалавека раскрываюцца вочы, ён сам сабе выбера дарогу і сам за сябе будзе несці адказ".

Глыбіня крытычнасці ва ўспрыманні, асэнсаванні і ацэнцы рэчаіснасці — гэта ў коласаўскім разуменні звычайна і галоўны паказчык глыбіні чалавечага характару. У высвятленні асноў у творах Я. Коласа найчасцей узнікаюць і разгараюцца вострыя дыскусіі і спрэчкі, у працэсе якіх складваецца своеасаблівая атмасфера поліфанізму. Калі адна думка імкнецца тут ахапіць прычынна-выніковыя сувязі паміж з'явамі як мага паўней і глыбей, то іншая — пэўным чынам толькі ўдакладняе, дапаўняе такі намер або (што таксама нярэдка наглядаецца) лянiва, абыякава слізгае па паверхні жыцця ці наўмысна супрацiўляецца і чыніць перашкоды пазнавальнаму, дэмакратычнаму і прагрэсіўнаму дзеянню.

З дастаткова выразнай акрэсленасцю такая дыскусійна-палемічная форма мастацкага поліфанізму выяўляе сябе ў вядомым цыкле твораў Я. Коласа пад назвай "Казкі жыцця". Тут у многіх алегарычных навелах разыгрываюцца драматычныя і драматызаваныя сцэнкі палемічна-дыскусійнага сутыкнення розных поглядаў на адно нейкае пытанне. І што цікава. Галоўную, вядучую і ў пэўным сэнсе настаўніцкую і правадырскую ролю нярэдка спрабуе ўзяць на сябе нейкая адна сіла.

Адносіны пісьменніка да такіх яе захадаў бываюць самыя розныя. Я. Колас лічыць зусім правамерным памкненне гэтай сілы стаць перападзе ўсіх астатніх шукальнікаў ісціны, аднак толькі ў тым выпадку, калі яе ўзвышае багаты, мудры жыццёвы вопыт і маральная дасканаласць. Пасіўнае, індыферэнтна-беззважнае альбо рэзкае і бунтоўнае нехаценне прыслухацца да чужога мудрага голасу ў аўтарскай інтэрпрэтацыі часта падаецца як нежаданне чалавека духоўна самаўдасканальвацца, перанапружваць сябе жыццёвымі клопатамі і ісці насустрач вырашэнню складаных і нялростых пытанняў жыцця.

Нешта падобнае наглядаецца, напрыклад, у алегарычным коласаўскім творы "Чыя праўда" (1921) з цыкла "Казкі жыцця". Вось кароткі яго змест. Стары дуб заклікае сваіх маладзейшых суседзяў быць больш удумлівымі і разважлівымі перад тварам магчымай сур'ёзнай небяспекі. Яны ж з'едліва падсмейваюцца над старым мудрацом ці ў лепшым выпадку спрабуюць адмахнуцца ад яго прапаноў і перасцярог. Аднаму з іх здаецца, што стары дуб схіляе на такія засяроджаныя роздумы, кіруючыся меркаваннямі зайздрасці да маладосці: "Ты стары, сілы ў цябе няма, і табе зайздросна, каму весела, хто жыць хоча". А іншыя наогул лічаць непатрэбным заняткам думаць пра заўтрашні дзень, псаваць сабе настрой: "Ці мала якія могуць быць выпадкі. Што варажыць аб тым?" Аднак з такою тэорыяй бяздумнагаружовага аптымізму аўтар не пагаджаецца, хоць палемічная лінія выяўляецца тут у досыць спакойных і ўраўнаважаных танах.

Якуб Колас як пісьменнік і чалавек сам вельмі паважліва ставіўся да мудрай людской практыкі і навуковай думкі і клікаў сваіх чытачоў шукаць у гэтым духоўным набытку для сябе апірышча і падмогу ў пошуку ісціны. Але разам з тым і сур'ёзна настройваў іх розум на крытычны лад, каб раптам не памыліцца і не прыняць уяўнае за сапраўднае, ману за праўду. У алегарычнай навеле "На ўсё ёсць прычына" нейкі прафесар Крумкач з такім майстэрскім прытворствам і імітацыйным запалам імкнецца сцвердзіць свой імідж вучонага, што шматлікае царства балотных птушак мусіла яму паверыць і паспадзявацца на яго мудрую выратавальную параду ў час вялікай для іх бяды — пажару. Праўда, скептычны адзінокі голас Жураўля паспрабаваў быў усумніцца і развеяць сляпую веру і эйфарыю сваіх пярнатых братоў і сясцёр, прамовіўшы, што Крумкач не вучоны, а проста "дурак". Але было позна. Няўмольны агонь вынішчыў усё птушынае жытло.

У многіх сваіх творах Я. Колас не проста канстатуе, а падкрэслівае, неаднаразова паўтарае і вылучае буйным планам думку пра немагчымасць чалавека замкнуць складаную, мнагамерную і поліфанічную шматстайнасць рэальнасці ў нейкую адну, нават вельмі ёмістую, мудрую і пасвойму нават універсальную формулу. Бо самыя мудрыя і універсальныя формулы абдымаюць толькі частку спазнанага намі свету. А таму ніхто, ніякі аўтарытэт не мае права сілком навязваць чалавеку сваю волю і сваё бачанне развіцця, пабудовы і перабудовы грамадства. "Бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся? — разважае сам-насам усё той жа Андрэй Лабановіч. — Гэтым і тлумачыцца той факт, што розныя правадыры, якія захоплівалі жарам свайго пераканання людскі натоўп і вялі яго за сабою, вялі толькі да тае граніцы, ад якой пачыналіся перашкоды".

Чалавек, гаворачы словамі героя (а з ім салідарызуецца і аўтар), не павінен аддаваць сябе ва ўладу эмацыйных настрояў і не клікаць у свае надзейныя саюзнікі "крытычны розум" нават тады, калі яго з самых добрых і недвухсэнсоўных, шчырых намераў падштурхоўвае на аднаварыянтнае, безальтэрнатыўнае рашэнне цяжкога, складанага пытання асоба неардынарная, чалавек з выразнай адзнакай **с о н е ч н а й** маральнай чысціні і тонкай духоўна-інтэлектуальнай арганізацыі.

Ці не пра гэта самае апавядае нам пафіласофску шматзначная паводле свайго сэнсу алегарычная навела-ўстаўка ў паэме Якуба Коласа "Сымон-музыка" пра промень-неслух. Здавалася б, Сонца ў людскім уяўленні — само ўвасабленне шчырай, усеабдымнай дабрыні і спагады, а таму сумнявацца ў такой яго ўсеахопнай і ўсеабдымнай добразычлівасці да кожнага з нас нібыта няма ніякіх падстаў. З названай навелы-алегорыі, аднак, вынікае, што часам нават Сонцу, гэтаму сімвалу бескарыслівасці, міласэрнасці і аб'ёмнай дабрыні цяжка бывае заставацца бесстаронніім і дакладным у сваіх падыходах да тлумачэння і здзяйснення высокіх агульначалавечых прынцыпаў і законаў праўды і гуманізму.

Ну, а што датычыцца тых прадстаўнікоў роду чалавечага, што нясуць у сабе выключна моцныя памкненні да лідэрства і правадырства, але надзелены прыродай даволі сціплымі духоўнымі магчымасцямі, дык "крытычны розум" у адносінах да іх, паводле коласаўскай інтэрпрэтацыі, павінен быць асабліва насцярожаным і строгім. Іменна ў такім ключы прачытваецца навела Я. Коласа "Купальскія светлякі", напісаная ў 1925 г. Хоць на самай справе слабыя, зеленаватыя агеньчыкі-пырскі начных купальскіх светлякоў імгненна гаснуць у іскрытым сонечным "бляску дня", самім ім здаецца, што яны і ёсць сапраўнае свята, а ўсё іншае — нешта пабочнае, дробязнае і малазначнае: "А нам — цьфу на сонца, на зоры, на месяц, на купальскія агні, што пазапальваны ў лесе ў гэтую ноч. Каля іх сялянская дурнота спраўляе свае танцы. Мы ж самі — сонца, зоры, месяц!"

Аўтар толькі злёгку пасмейваецца тут з амбіцыйнай і самазадаволенай пахвальбы купальскіх светлякоў, бо ад іх выхвалення нікому ні холадна ні горача. Гэта — усяго толькі бурбалкі ў лужыне вады.

Але горай бывае тады, калі такая высокая самаатэстацыя ў якасці духоўнага эталона пад розным "соусам" прапануецца і навязваецца іншым людзям, а тыя без асаблівага супроцьдзеяння (ці нават з вялікай ахвотай і задавальненнем) прымаюць усё гэта на веру і трапляюць на прыманку гучнага, пустога і падманлівага слова. У такіх выпадках коласаўскі смех набывае прыкметна вастрэйшыя, а нярэдка і сатырычна-выкрывальныя формы.

Аднак тут хочацца адразу ж зрабіць агаворку. Па-майстэрску валодаючы багатымі прыёмамі і сродкамі "смехавой палітры" і часта скіроўваючы вастрыё крытычнага позірку **н а в о н к а ў ю** сферу жыцця, пісьменнік — скажам так — "прывучаў" свайго героя не вельмі захапляцца крытыкай **к а г о с ь ц і**, а найперш звяртаць засяроджаную самакрытычную ўвагу на прагалы і недасканаласць уласнай душы. Гэта прынцыповая асаблівасць маральна-этычнай пазіцыі Якуба Коласа і надзвычай важная, прынцыповая грань эстэтычнага крэда, якое вызначае сутнасны момант паэтыкі многіх яго твораў і тую асаблівасць псіхалогіі герояў, якая, паводле аўтарскага разумення, з'яўляецца і стрыжнявой рысай характару інтэлігента.

Галоўны герой трылогіі Я. Коласа "На ростанях" настаўнік Лабановіч, як можна заўважыць, досыць крытычна настроены да негатыўных з'яў рэчаіснасці. Праз гэта нават у турму трапіў. Але вельмі і вельмі патрабавальна ён ставіцца найперш да самога сябе, імкнучыся як мага глыбей асэнсаваць прычынна-выніковую сувязь жыцця. Бо адчувае, што недахват ведаў не дазволіць яму паспрыяць і таму, каб складанасці жыцця глыбей усвядоміў чалавек з народа і стаў меней залежным ад чужой волі.

Нешта падобнае наглядаем мы і ў паэме "Сымон-музыка". Галоўны герой твора ўвесь час настройвае тут сябе на самакрытычны лад, прымушаючы сваю душу і свой розум няспынна працаваць і самаўдасканальвацца. Напачатку, у падлеткавым узросце, яму здаецца, што жалейка, на якой іграе гуртовы пастух, і ёсць вяршыня музычнага майстэрства. Аднак праходзіць час, і ён пачынае глыбей усведамляць, што "дудка-весялушка" хоць па-свойму і добры музычны струмант, але сыграць на ім складаную, багатую і шматстайную на гукі і рытмы сімфонію жыцця ўсё ж нельга. Гэтае ўсведамленне ўласнай прафесійнай недасканаласці штурхае героя да пошуку новых формаў і спосабаў пазнання, а сама прага-жаданне спасцігнуць прафесійныя навуковыя тайны музычнага майстэрства становіцца ў яго часам такой моцнай, што ён гатовы ахвяраваць жыццём за "першае знаццё" вышэйшых нотных законаў музыкі.

Строгі, самакрытычны погляд коласаўскіх герояў на саміх сябе стрымлівай іх і ад паспешлівага жадання браць на сябе нейкую важную і адказную **в у ч ы ц е л ь с к у ю** функцыю. Той жа Лабановіч, будучы настаўнікам, з'яўляецца адначасна і вельмі старанным вучнем. Гэта рыса старраннага і руплівага вучня ў яго часта нават пераважае ў адрозненне, напрыклад, ад героя рамана Ц. Гартнага "Сокі цаліны" Рыгора Нязвычнага, які, аваладаўшы ўсяго толькі азамі граматы, без якіх бы там ні было ваганняў і сумненняў заяўляе, што болей за ўсё яму падыходзіць менавіта настаўніцкая, лідэрская роля "вучыць, а не вучыцца". Я. Колас палемічна ставіўся да такой саманадзейнай, прэтэнзіёзнай тэндэнцыі ў нашай літаратуры і вельмі непакоіўся, каб гэта небяспечная тэндэнцыя не выйшла з-пад народнага кантролю і не стала дамінуючай сілай у рэальным жыцці.

Ну, а да чаго давялі краіну "настаўнікі" накшталт героя рамана Ц. Гартнага "Сокі цаліны" Рыгора Нязвычнага, цяпер нам, здаецца, усім добра вядома (прытым гэта быў яшчэ не самы горшы "настаўнік"). Праўда, вопыт гісторыі не заўсёды лёгка засвойваецца наступнымі пакаленнямі. І тут даводзіцца толькі развесці рукамі і пашкадаваць.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# "Край" сабраў сяброў

І не столькі сённяшніх, колькі будучых, бо "Край", як вядома, гэта альманах, які выдае Полацка-Глыбоцкая літаратурная філія Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, а ён толькі пачаў сваё жыццё. Значыць, кола прыхільнікаў яго з цягам часу пашырыцца. А каб гэта і на самай справе стала так, і была арганізавана ў Доме літаратара прэзентацыя гэтага рэгіянальнага, але не правінцыйнага выдання.

Адкрыў вечарыну сакратар Рады СП У. Паўлаў. Ён уручыў членскія білеты паэтам Г. Варатынскай і Т. Ляшонку, якія нядаўна былі прыняты ў творчую суполку (жывуць яны адпаведна ва Ушачах і Глыбокім). А першым з "Краем" пазнаёміў прысутных вядомы паэт і журналіст, галоўны рэдактар альманаха Н. Гальпяровіч. Свае творы прачыталі М. Баравік, Г. Зінкевіч, І. Пракаповіч, А. Жыгуноў, А. Нафрановіч і іншыя, выступілі таксама В. Аксак, П. Васючэнка, С. Тарасаў. І. Жарнасек пазнаёміла са сваімі перакладамі паэтаў, якія жывуць у Польшчы ў горадзе Плоцку.

Багатай была і песенная частка вечара. Выступалі Л. Сом, М. Новікава, маці і дачка Касьянавы, дарэчы, абедзве Людмілы. А яшчэ свой талент падарыў кампазітар і спявак Б. Грамакоўскі, які жыве ў Глыбокім.

# Не толькі настаўнікам

адрасуецца "Беларускі гістарычны часопіс". Пацвярджэнне таму — і першы нумар гэтага выдання за сёлетні год. У раздзеле "Гісторыя дыпламатыі" змешчаны артыкул У. Ладысева і П. Брыгадзіна "Рада БНР пасля Рыжскага дагавора 1921 г., ці Канец нацыянальнага рамантызму", а таксама шэраг дакументаў — "Мемарандум Беларускай Народнай Рэспублікі Канферэнцыі Дзяржаў у Генуі", "Тэлеграма Старшыні Рады Міністраў БНР Канферэнцыі Вярхоўнай рады Лігі Нацый у Лондане" і "Пісьмо Патрыярха Ціхана Старшыні рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі".

Адкрываецца ж нумар гутаркай галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь В. Стражавым "Міністэрства мае акрэсленую праграму дзеянняў". Чытач пазнаёміцца з артыкуламі М. Шумейкі "Эдыцыйная археаграфія і фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці", з М. Сакаловай "Кансерватызм на Беларусі ў XIX ст.", М. Бяспалай "Эканамічнае развіццё беларускай вёскі (20-ыя гг. XX ст.)", А. Кушнярэвіча "Мураванае культавае дойлідства Беларусі XI ст.", А. Вабішчэвіча "Таварыства беларускай школы (1921—1936 гг.)", М. Спірыдонава "Адампаль — выдатны помнік аграпрамысловай культуры і архітэктуры" і іншымі матэрыяламі.

# "Жыццё ўстрывожыла душу..."

Алесь Лісіцкі лімаўскаму чытачу вядомы: на старонках штотыднёвіка ён выступаў і з артыкуламі, нарысамі, і з вершамі. Друкаваўся ён таксама ў часопісе "Полымя", газеце "Чырвоная змена", іншых перыядычных выданнях, у тым ліку і на старонках "Маладосці". І вось у "Бібліятэчцы часопіса "Маладосць" першай за сёлетні год стала кніга А. Лісіцкага "Сны ля Убарці".

У зборніку прадстаўлены не толькі вершы, а і вянок санетаў, а яшчэ — сорак трыялетаў. Гэты жанр, як вядома, сучаснымі паэтамі выкарыстоўваецца не так часта. А вось А. Лісіцкі прызнаецца:

*Я апантаны трыялетам —*
*жыццё ўстрывожыла душу,*
*таму і словам не грашу.*
*Я апантаны трыялетам.*
*Чаму і як? Я раскажу*
*яго радкамі вам пра гэта...*
*Я апантаны трыялетам —*
*жыццё ўстрывожыла душу.*

Найперш пра жыццё — зборнік "Сны ля Убарці". Пра жыццё, падгледжанае і асэнсаванае чалавекам, які мае на яго свой погляд і якому ёсць што сказаць.

А. А.

ПАЭЗІЯ

Віктар ШНІП



# На вуліцы маёй зіма...

## Нож

*нож ляжыць на стале і свеціцца*
*як абламанае вастрыё маланкі*
*нож пераразае вяроўкі*
*і дае волю*
*нож пераразае горла*
*і забірае жыццё*
*нож вечны раб*
*якому няма чаго губляць*
*акрамя сваёй вастрыні*
*нож баіцца адзіноты*
*яна можа яго з'есці*
*нож спакушае вар'ята*
*і палохае баязліўца*
*але цяпер ён ляжыць на стале*
*на якім у крышталёвай вазе*
*як у вечным лёдзе*
*памірае чырвоная ружа*

## Павук

*ягонае жыццё паляванне*
*доўгае як павуціна*
*якое і трымаецца на павуціне*
*павук хавае і хаваецца*
*ён апускаецца на дно цемры*
*і ўздымаецца на полымя восені*
*не маючы крылаў*
*ён марыць аб вандроўках*
*і даверыўшы сябе ветру*
*пералятае бабіна лета*
*асвятляючы свой шлях павуцінай*
*павук любіць кватэрныя вуглы*
*але палюбіўшы іх*
*ён акругляе іх павутой*
*ён баіцца мяне*
*і я гледзячы ў вакно*
*на чорную павуту голых галін*
*не магу праравацца ў неба*
*дзе залаты павук сонца*
*п'е вячэрні золак*
*не разумеючы што гэта*
*яго смерць*

•

*У гэтай цямнечы нікога няма,*
*У гэтай цямнечы цямнеча сама.*
*І мне да святла, як сляпому, ісці,*
*Каб волю згубіць і каб волю знайсці.*
*І пройдуць гады,*
*быццам вечнасць міне,*
*І гэтая вечнасць засядзе ўва мне,*
*Нібыта страла, ад якой не ўцячы,*
*І знікне ўва мне, як агонь у начы.*
*Ды ўбачу наўколле, нібыта той свет,*
*Дзе чорнае неба — як смерці партрэт.*

•

Памяці Міколы СЕЛЕШЧУКА

*З балотнай*
*ды роднай самотнай краіны*
*Паехаць да мора і там — патануць...*
*Праз дождж па дарогах*
*дажджлівай Айчыны*
*Самотныя людзі самоту вязуць.*
*І дрэвы губляюць апошняе лісце,*
*І следам лятуць за машынай вятры,*
*І ты ўжо не можаш спыніцца*
*і выйсці,*
*Каб з лесам, каб з рэчкаю пагаварыць.*
*Ты едзеш дадому навечна, не ў госці,*
*Ты едзеш не ў хату,*
*ты едзеш пад крыж,*
*Дзе вечнасць чакае цябе на пагосце,*
*Таму так балюча і шчыра маўчыш...*
*Зноў мора чужое далёкае сніцца,*
*Дзе чорныя хвалі, як чорны пажар.*
*І раптам на бераг*
*вады бліскавіца,*
*І падае неба —*
*пад хвалямі*
*хмар...*
*І ціха ізноўку і светла, бы ў Храме,*
*І свечкі, як зоркі ў сусвеце, гараць.*
*І маці страчае...*
*І што скажаш маме,*
*І што тут Айчыне сказаць...*

•

*У адшумелым леце, у нявечным свеце*
*Амаль нічога ўжо вясёлага няма,*
*І ў прыдарожным пыле спіць*
*сабачы вецер,*
*А ў ветры спее вечная зіма.*

*А мне б у гэтым леце, нібы ў сне,*
*застацца,*
*Не знаючы, што гэта толькі*
*сумны сон,*
*Каб потым над зімой, як над сабой,*
*смяяцца,*
*Палохаючы цені і дурных варон.*

*...І пыл падыме*
*да аблок сабачы вецер,*
*І знікне ў небе пыл,*
*і стушыцца святло...*
*І мы падзелім вечнасць*
*ў нявечным свеце*
*На дзве паловы — холад і цяпло.*

•

*Ты прыйшоў у гэты чортаў свет,*
*Дзе віна, жанчын і цыгарэт*
*Некаму заўсёды не хапае.*

*Ты прыйшоў у свет, як рэстаран,*
*І ў табе, савецкім, дрэмле пан,*
*Ды пра гэта ніхто не знае.*

*І таму, уцёкшы ад сяброў,*
*Нібы воўк у ночы ля кастроў,*
*Ты адзін між ліхтароў блукаеш.*

*І табе не зразумелы свет,*
*Дзе віна, жанчын і цыгарэт*
*Маладым, як смерці, не хапае.*

*І калі свет зможаш зразумець,*
*У табе, як ноч, саспее смерць,*
*Ад якой нікуды не ўцякаюць.*

*І табе адкрыецца сакрэт:*
*Ад віна, жанчын і цыгарэт*
*Толькі недарэкі паміраюць.*

## Чаканне снегу

*Снегам засыплецца лісце,*
*што стала ўжо смеццем,*
*І пасвятлее на вуліцах і на душы,*
*І заскуголіць ад холаду ў вечары вецер,*
*Вецер, што пасвіць*
*па восеньскіх травах дажджы.*

*Выйду на снег*
*і нібыта вярнуўся дадому,*
*Нібы вярнуся ў жыццё,*
*дзе чарноты няма,*
*Дзе ніхто не псуе адзіноты нікому,*
*Дзе як прыходзіць зіма,*
*дык прыходзіць зіма.*

*Снегам засыплецца лісце,*
*што стала ўжо смеццем,*
*Снегам засыплецца наша*
*з табою "бывай...",*
*Наша сустрэча засыплецца снегам*
*у леце,*
*Снегам у леце засыплецца пекла і рай.*

•

*А мы жывём у небыцці,*
*Як сонца ў восеньскім лісці.*
*І кожны божы дзень, як сон,*
*Як шкло нябёснае ікон.*
*І мы з табой у ноч глядзім*
*І, нібы пыл, да зор ляцім.*
*Ляцім, не верачы ў палёт.*
*І неба нам, як вечны лёд*
*Над Летай, дзе не спіць Харон,*
*Дзе кожны божы дзень, як сон.*

## Змова

*Разальецца віно і рассыплецца соль,*
*І зніжэюць нябёсы, як чорная столь.*
*І закончыцца дзень,*
*бы патухне касцёр,*
*І ў вугольчыкі згорнецца*
*светлы прастор.*
*І ты выйдзеш у свет*
*і не ўбачыш жыцця,*
*Але восень адчуеш па шуме лісця.*
*І ты пойдзеш па свеце далей ад зімы*
*За палі, за лясы, каб не ўбачылі мы,*
*Як ты станеш ваўком і завыеш у выш*
*І ад срэбнае кулі навек замаўчыш.*
*Але покуль яшчэ не разліта віно,*
*І нябёсы празрыстыя, нібы вакно,*
*Мы ўсе разам з табою*
*на захад глядзім*
*І прад ноччу маўчым,*
*і маўчым аб сваім.*
*Ды ўжо льецца віно,*
*і ўжо сыплецца соль,*
*І ніжэюць нябёсы, як чорная столь...*

•

*З дрэваў вецер зрывае лісцё,*
*Нібы свечкі ён тушыць над шляхам,*
*Па якім мне ісці ў небыццё*
*Адзінокім, нямоглым манахам.*

*Толькі я выбіраю касцёр,*
*На якім ноч дашчэнту згарае,*
*І сабой асвяціўшы прастор,*
*Нібы з попелу, з ценю ўзнікае.*

*І шуміць нада мной лістапад,*
*І ляціць, нібы д'ябал, па свеце,*
*Каб анёлам вярнуцца назад,*
*Дзе над шляхам маім дым і вецер.*

•

Людміле

*На вуліцы маёй святла няма,*
*На вуліцы маёй даўно зіма,*
*Дзе чорны снег, як попел ад кастроў.*
*І я гляджу ў нямую цемнату,*
*Нібыта ў чорную, як ноч, ваду,*
*Дзе дрэвы, нібы мачты караблёў,*
*Што затанулі па дарозе ў рай.*
*Ды рай заўсёды там, дзе родны край,*
*Дзе нават райскай можа быць зіма.*
*І, як пачвары, з зімняй цемнаты*
*Глядзяць мне ў вочы снежныя каты...*

*На вуліцы маёй цябе няма,*
*На вуліцы маёй зіма.*

•

*За вакном Еўропа і зіма.*
*Выпіць бы гарэлкі! Ды няма*
*Ні гарэлкі, ні за што купіць...*
*Доўга можна жыць, калі не піць.*
*Фортку адчыню і закуру,*
*Каву для настрою завару,*
*Пазваню табе і раскажу,*
*Як адзін я ля вакна сяджу.*
*За вакном Еўропа і зіма.*
*Толькі еўрапейскага няма*
*Там нічога, ані ў чым, нідзе.*
*З неба снег, як азіят, ідзе*
*І няма яму канца зусім.*
*Нада мною цыгарэтны дым,*
*Нібы прывід райскага жыцця.*
*Снег ідзе, і ўжо няма смяцця*
*За вакном, і толькі снег і сон,*
*І насупраць дом, як белы слон.*

•

*У цямноцці зімовых начэй*
*Я не бачу анёльскіх вачэй.*
*Я не бачу анёльскіх вачэй*
*У цямноцці вясновых начэй.*

*Паміж намі снягі і снягі,*
*Як не сказаных слоў святло.*
*Як не сказаных слоў святло,*
*Паміж намі снягі і снягі.*

*Праз цямноцці зімовых начэй*
*Да цябе, як ратунку, іду.*
*Да цябе, як да смерці, іду*
*Праз цямноцці вясновых начэй.*

*Будзе дзень, як вялікі касцёр,*
*Дзе згарым мы ў пакутах адны.*
*Дзе згарым мы ў пакутах адны,*
*Будзе дзень, як вялікі касцёр.*

•

*Сцюдзёных вятроў адзінота*
*Шпурляе пад ногі лісцё.*
*Самота... І жыць неахвота,*
*Бо гэта жыццё — не жыццё.*

*Засыплецца лісцем дарога,*
*Забудзецца дзень, як цяпло,*
*Якое было мне тут богам,*
*Якое мне д'яблам было.*

*Іду і знікаю ў лістоце,*
*Як сон, як былое, як пыл,*
*І думкі мае ў адзіноце,*
*Як людзі ля свежых магіл...*

ДЭБЮТ

Міхась РАЙЧОНАК

# КРЫК

АПАВЯДАННЕ

АНДРОСІК не ўзлюбіў суседа, як толькі ўбачыў. Хацеў перайсці на другое месца, але стала боязна — раптам падумаюць, што палахлівец. А сусед, яго аднагодак, зайшоў у дызель на апошняй станцыі, сеў насупраць. Чымсьці ўзрушаны, ён бегаў вочкамі па вагоне, нібы шукаў штосьці, а потым ухмялела ўтаропіўся ў акно, дзе слаліся напаленыя сонцам краявіды.

Пачуваючы сябе няёмка, Андросік адклаў убок гітару, бо нешта ў ёй сцялася, і гукі сыпалі проста як гарох. А перад станцыяй яна яшчэ звінела серабром, і людзі, што былі ў вагоне, слухалі яе зачаравана, баючыся яму перашкодзіць. Ён жа ціхенька граў для сябе і дзяўчыны, што сядзела насупраць праз сядзенне. Часам іх іскрыстыя позіркі сустракаліся і гэтак жа імгненна, як і сышліся, разбягаліся, пакідаючы аб сабе ў напамінак цяпло.

Зараз між імі сядзеў захмялелы хлапчына, і каб зірнуць на яе, у Андросіка не хапала духу, бо адразу натыкаўся на п'янаваты пагляд. І столькі было ў тым паглядзе муці, што нават сонца ў ім патанала.

Андросік гідліва глядзеў на яго ўспатнелы твар. Завіслыя над валасамі крапелькі поту цяклі па скронях, вачах і шчоках да падбародка, пакідаючы мокрыя пасаўкі. "Гарэлка плача", — падумаў ён і адвярнуўся да вакна. А там, на вольных прасторах распешчанай сонцам травой, іх позіркі гулялі разам і ім хапала раздолля. Праўда, Андросіку хацелася яшчэ глядзець на незнаёмку, ды было ніякавата нават зірнуць на яе, а перасесці таксама не мог. Невядомая сіла трымала на месцы. Засталося адно — ці глядзець у акно, ці граць на гітары. Андросік зноў пяшчотна ўзяў у рукі гітару і крануў струны. Яны тоненька задрыжалі, страсаючы з сябе заспаныя гукі.

Нетаропкая мелодыя ахутала засмяглы вагон. Стала свяжэй. Збаўная вольнасць ненадоўга раскавала душу. Прыціхла спёка, адступіла напруга. А потым зноў аднекуль з глыбінь выпаўз неспакой — і гукі ўвачавідкі сталі мярцвець. Андросік скурай адчуў, што на яго глядзіць сусед. Непрыемны позірк будзіў у ім нешта калмата-чорнае, што праступала ліпкім потам, сцінала горла і пальцы. І гітара змоўкла.

— Добра граеш, — сказаў нарэшце сусед. — Амаль як маэстра. Гукі былі лёгкія, чыстыя. Можна мне пайграць трошкі? — папрасіў ён.

"Спэцкае яшчэ ці зламае", — падумаў Андросік і пахістаў галавой, што не дасць.

— Не, дык не, — пакрыўдзіўся сусед і моўчкі адпіў з бутэлькі.

"Добра, што не даў, — прамільгнула ў Андросіка думка. — А то Бог ведае, што б з ёй было. Ды і як гэта аддаць яе ў чужыя рукі?!.."

Андросік любіў сваю гітару раўніва і страсна. Любіў, бо яна гаварыла за дваіх — ён жа быў нямы з маленства. Музыка была для яго замест слоў, такая ж жывая, рухлівая. Каб не яна, засталася б адна адзінота, змрочны пакой з акном у зацяты дамамі двор і ліпа, уся скрамсаная словамі і такая ж маўклівая, як і ён. Таму, калі было дужа балюча на сэрцы, Андросік глядзеў на яе, і яны маўчалі ўдваіх.

Суседаў твар счырванеў яшчэ болей. У духаце ён хутка хмялеў, вочы шклелі, гублюючы жывы бляск.

"Шкурнік, відаць, гэты з гітарай, — падумаў пра Андросіка сусед. — Шкада яму падзяліцца. Няхай лепш падавіцца сваёй дзеравяшкай... Няма ў ім дабрыні... І гэта... — слёзы набеглі на вочы, — такая ж... Столькі гадоў кахання і ўсё пакрамсана. Што бедаваць, назад не вернеш — за другім ужо... Ды і навошта — першая ў паклёп паверыла. І каму то было патрэбна, зайздрасць заела ці яшчэ што. Вось дык людцы мае... Варта было самому раней, дык не... — Ад невясёлых думак ён усё больш хмурнеў. — І чаго было баяцца тады, калі яшчэ жыла надзея. Пацалуй, скажы словы — не змог, чакаў, што скажа яна, а яна змаўчала..."

Андросік стараўся не глядзець на суседа. Але калі адрываўся ад акна і пазіраў на дзяўчыну, што сядзела тварам да яго якраз за спіной няўзлюбца, то ўсё роўна сустракаўся з ім паглядамі, нібы той наўмысна чакаў. І пры кожнай такой сустрэчы яго дух і цела сціналіся.

А сусед, яшчэ больш ухмялелы, глядзеў і глядзеў на яго. Вочы не міргалі, застылі, што яшчэ больш палохала. А калі ў іх успыхваў нейкі агеньчык, то сэрца ў Андросіка замірала, бо здавалася, што зараз нешта здарыцца.

Але ўсё пачалося інакш. Сусед гэтак жа, не адрываючы ад яго вачэй, толькі здзіўлена, спытаў:

— Ты яшчэ едзеш? І далёка табе?

Андросік аж скалануўся і толькі пацепнуў плячамі, што вось еду яшчэ і далёка. Хацеў усміхнуцца, але вусны скрывіліся ў недарэчную грымасу.

— Што ўхмыляешся?! Страх, мо, згубіў? — зазлаваў сусед. — Зараз успомніш...

У Андросіка перахапіла горла, быццам ён захліпаўся ў плачы, як было ў той дзень, калі стаў нямы. Сусед змаўчаў, толькі ўтробная ікота вырвалася з горла, штосьці нядобрае рабілася з ім. Нейкі час праехалі моўчкі. А потым сусед спытаў зноў:

— Ад мамкі едзеш?! Пестунок. Гітару вязеш дзяўчат прынаджваць? Знаю такіх, на чужых ласых.

Андросік абурыўся было, але хутка абмяк, бо што ён можа.

— Дай пайграць мне, — ужо не прасіў, змушаў сусед. — Не адны бабскія лісліўцы іграць на гітары ўмеюць.

"Што ён вярзе, — думаў Андросік. — Якія лісліўцы? Якія пестункі?Нічога не ведае, а дурное кажа. Божачка, хутчэй бы даехаць..."

А сусед даймаў яшчэ горш, бо здалося яму, што калі гэта не яго шчаслівы сапернік, то чыйсьці абавязкова, навошта ж так палохацца. Нешта тут не тое.

— Дай сюды гітару, — пагрозна сказаў ён, ужо добра сп'янелы, прагны здзеку і помсты.

"Не дам", — матлянуў галавой Андросік і прыкрыў гітару сабой.

— Пайшлі пакурым, — ціхэйшым голасам сказаў сусед. Андросік адхінуўся назад у надзеі, што пасажыры заступяцца, бо чутна было, калі не ўсім, то самым блізкім. Але сусед узяў яго рукі і лёгенька тузануў, каб весці за сабой. Ніхто не падаў голасу, не абурыўся. Бліжэйшыя толькі незадаволена павярнулі галовы: ходзяць тут усякія, і змаўчалі, бо ўсё гэта выглядала гульнёю ці злаславым жартам між двух знаёмцаў, ды і падстаў для бойкі замала, і як жа гэта можна на людзях. Проста падымяць і сціхнуць.

Андросік паддаўся і пайшоў следам, бо не хацелася ўздымаць шум у вагоне, а там, можа, усё растлумачыць якнебудзь, і ўзяў з сабой блакнот. Ён быў такі разгублены, што панёс з сабой у руках гітару, быццам і сапраўды яны там збіраліся на ёй іграць.

— Ну што ты, смелы стаў, — як толькі зайшлі ў тамбур, пачаў сусед, а Андросік у адказ маўчаў, прыхінуўшыся да сценкі.

— Маўчаць удумаў, — прасіпеў сусед і ўдарыў Андросіка ў жывот, той толькі застагнаў, але зацята маўчаў, бо як зараз прызнацца гэтаму хаму, што не можа гаварыць. Лепш цярпець, можа ўсё хутка скончыцца ці абыдзецца.

Ён так думаў, а сусед ударыў тройчы і балюча, што, здалося, трэснулі рэбры. Сусед ударыў бы яшчэ, толькі стрымаўся, бо з суседняга вагона хтосьці ішоў і загрукаў дзвярамі. Праз некалькі секунд у тамбур увайшоў кантралёр і з абыякавай звычайнасцю запытаў білецікі, праверыў і пайшоў далей у вагон. Андросік хацеў было рвануць за ім следам, але сусед схапіў за руку.

— Уцячы захацеў? Не выйдзе! Маўчаць гонару хапае, а драпака даеш. Фраер чортаў. Чужых дзевак песенькамі зводзіш, а ў морду атрымаць баішся. З-за такіх, як ты, чысценькіх музыкантчыкаў, — усё нядобрае бывае. — Хлопец разумеў, што кажа нешта бязглуздае, але з кожным словам, як і з кожным ударам, яму лягчэла на душы.

Андросік ужо не пратэставаў, адно толькі думаў, за што гэта... Яго спакоранасць раз'юшвала суседа, і ён біў яго цяпер рукамі і нагамі. Нядоўга і нядужа балюча, бо ўжо праслаб і нават пахістваўся, затое ў нямковай душы яны адгукаліся пякельным болем, крыўдай, што вуглямі апякала сэрца.

Сусед, спатоліўшы сваю злосць, стаяў над ім, ухмялелы, і лаяўся. Андросік не слухаў яго, бо ледзь стрымліваў дзякія слёзы. Гітара, ушчэнт зламаная, ляжала побач.

— Слабак, — здзекаваўся сусед. — Другі раз не будзеш з дзеўкамі забаўляцца. Я страх твой... — казаў ён, але замест слоў з горла вырваліся смуродныя ваніты і прама Андросіку на галаву, на грудзі. Хлопец увесь сцяўся, быццам на яго ўзлілі кіпень. Аднак не стаў хутчэй страсаць з сябе рэшткі зжаванай ежы, бо было брыдка нават дакрануцца да іх рукой. Сусед спалохаўся і пайшоў прэч, пакінуўшы Андросіка сам-насам.

"Што гэта за бяда? За якія правіны?.. — думаў Андросік. — Якая ўжо сёння можа быць гітара і канцэрт: на людзі не выйдзеш. І трэба было з гэтым п'янтосам сустрэцца... Здавён так: што благое, дык мне. Бяда ўсё следам ходзіць: і нямы, і слабы, і белы, быццам на млыне народжаны..."

Андросік — гідліва сцёр з сябе ваніты, але ўсё роўна засталіся знакі і смурод. А ў душы ўсё кіпела і бунтавала: "Трэба было бараніцца — усё гітары сваёй шкадаваў, ды сам яе з сабой на згубу прынёс. Біцца трэба было — мо не так душа балела б. Няхай і больш кухталёў, затое сумленне і гонар засталіся б чысцейшыя. А гітару ўсё адно не збярог".

У запозненым адчаі Андросік ускочыў на ногі і ўдарыў кулаком у сценку — з рукі пайшла кроў, але лягчэй не стала.

"Як далей быць. На вакзале чакаюць, а ўвечары канцэрт. Вось табе і Сымон-музыка..."

Неўзабаве дызель спыніўся на невялікім прыстанку. Ніхто не заходзіў і не выходзіў. "Трэба выйсці і абмыцца, — падумаў Андросік. — А на наступным даеду..."

Пакуль ён думаў, дызель крануўся, але, як рэдка бывае, дзверы чамусьці не зачыніліся. Андросік падышоў бліжэй і глядзеў, як замільгалі дрэвы і слупы на ўзбочыне. "Скачы, — сказаў ён сам сабе. Ужо нават сышоў ніжэй на прыступкі. Толькі ў апошнія хвіліны страх сцягнуў сухажылле, і ногі не скрануліся з месца. — Скачы, — змушаў сябе Андросік. — Няўжо нават на гэта не здольны... Ступі крок і ўсё будзе ў парадку. Ну, давай! — А поезд ужо набіраў хуткасць. — Скачы! — слёзы пацяклі па шчоках. — Няўжо ні на што не варты", — задрыжэла ад напругі цела... І ён скочыў праз страх свой і нямогласць...

Няўмела прыцягнуў да зямлі ногі — упаў проста на насып стоць галавой, перакуліўся і застыў непрытомны. Калі адкрыў вочы, прайшло гадзіны паўтары, ужо браўся надвячорак. Моцна балелі рэбры, аж займала дыханне, а правы клуб пякло невыносна. Памацаў рукой — пальцы сталі крывавымі, а ўсё цела змярцвела.

"Гэта канец", — спакойна падумаў Андросік. І сам здзівіўся свайму спакою. Ні нядаўняга тлуму, ні страху ў душы не было. Толькі туга па гітары і маці слязінкамі збегла з вачэй. Розум і дух сталі чыста-нябёснымі, без хмурынкі. "Як усё проста, — думалася яму. — Боль сціхне і... Усё адно, хто нямога палюбіць..." І тут думка абудзіла ў памяці той страшны дзень.

...Дзеці, як звычайна, гулялі, гойсалі, стракаталі з драўляных аўтаматаў і палак. Барукаліся і бралі ў палон па ўсіх статутах дзіцячай вайны. Адно хіба не расстрэльвалі, а проста садзілі ў падвал пад замок, пакуль хто не браў верх, а потым усё пачыналі спачатку.

Андросіку тады не пашанцавала: яго хутка скруцілі ўтрох непрыяцелі і павялі ў палон. Ён дужыўся вырвацца, каб стрэльнулі ў спіну, тады ўсё было б па правілах і можна было б дачакацца канца гульні разам з астатнімі "забітымі" на ганку дома. Але ўзяць палоннага лічылася за гонар, таму хлапчукі з усіх сілаў трымалі яго, а калі ўпіхнулі ў падвал, нават паставілі вартавога, бо меліся быць яшчэ вязні... Гэта было апоўдні, гэта быў пачатак гульні.

Вартавы часам ненадоўга кудысьці знікаў, а потым вяртаўся назад. Апошні раз знік і не прыходзіў, відаць, трапіў у нейкую нявыкрутку. Потым нечакана лінуў дождж і ішоў да вечара. Усе пайшлі, а Андросік застаўся адзін.

Знайшлі яго позна ўвечары, амаль ноччу, калі маці прыбегла з дзяжурства. Ён быў бледны, сплаканы, дрыжэў, нібы ў гарачцы. А назаўтра па гарадку разнеслася вестка, што знямеў сямігадовы хлопчык.

Потым ён колькі разоў хадзіў у той падвал і ведаў яго, як сваю кватэру. І не мог ніяк зразумець, чаму не ступіў тады пяць крокаў за вугал засека, дзе было адкрыта вакенца, а адстаяў увесь час ля дзвярэй.

Дзеці, з якімі гуляў, сталелі, але з імі не было ўжо сяброўства. Адчуваючы віну, яны стараніліся, а калі выпадала быць разам, адчуваўся холад. І так заўсёды. Толькі ў інтэрнаце сярод такіх жа нямых было лепей. А дома маці па начах плакала, што сын без бацькі расце і калека.

Ляжаць пад сонцам стала нясцерпна. А горш за ўсё было тое, што змярцвелась пакідала цела, саступаючы месца болю, які пякуча торгаў у ранах і драпінах. Андросік нават сцяў зубы.

"Калі дагэтуль не памёр, — думалася яму, — то, відаць, прыйдзецца памучыцца, пакуль кроў не сыдзе... Смерць расплатай будзе ўсяму і жыццю таксама... Толькі жыць усё адно было лепей, хаця і без справядлівасці. Але што я магу". Андросік паспрабаваў кранууцца — боль полымем апаліў раны. Нават здалося, што дзесьці пад лапатку ўелася разбітая шклянка. "Трэба, мусіць, проста чакаць, — думаў хлопец. — Толькі чаго?!.. Божачка, за што мне ўсё гэта, навошта!.." Каб гаварыць мог — Андросік закрычаў бы, а так... Ён не стрываў і заплакаў. Слёзы проста пырснулі з вачэй. Даўкі камок зноў сцяў горла, ад гэтага такі адчай ахапіў Андросіка, што ён нечакана для сябе роспачна крыкнуў на ўсе грудзі — голас яго пакутны панёсся па навакольным абшары. Хлопец не паверыў сабе і закрычаў зноў...

Людзі, што былі непадалёк на сенажаці, пачулі яго, але, азірнуўшыся, не ўбачылі нікога і падумалі спачатку, што гэта, пэўна, падалося, бо хіба можа так страшна і жалобна крычаць зямля. Яна ж нямая...



*Міхась РАЙЧОНАК нарадзіўся ў 1973 годзе ў вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі дзяржаўны педінстытут. Зараз аспірант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. У друку выступаў з публіцыстычнымі творамі. Займаецца даследаваннем творчасці Язэпа Драздовіча.*

# *Мова сяброў і... дыпламатаў*




**Адно з адным паразумецца, прыгадаўшы шматвяковую гісторыю сваіх суседскіх стасункаў, задумаўшыся над глыбокай спакроўленасцю культурных традыцый, над агульным еўрапейскім радаводам прафесійнага мастацтва, — як спрыяе гэтаму музыка! Паядналая ў цыкл пад нязвыклай шматзначнаю назвай "Музыка Літвы і Кароны", яна без лішніх слоў распавядае пра многае. Чым і з кім была зямля беларуская два стагоддзі таму, і пяць, і сем. Што ёсць наша спадчына і спадчына спрадвечных нашых заходніх суседзяў — летувісаў ды палякаў, з якімі лёс надоўга зводзіў і ў адной дзяржаве. Якімі творчымі набыткамі розняцца і родняцца нашы народы ў XX стагоддзі...**

**Чыннік цыкла канцэртаў "Музыка Літвы і Кароны", які ладзіцца ў Мінску ўжо год, — Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, мае ў гэтай справе салідную падтрымку: грунтоўны досвед і дасягненні беларускіх выканаўцаў, таму ўдаецца парадаваць самую вытанчаную і пераборлівую публіку. Праграмы, якія апошнім часам праходзяць у сталічным Доме дружбы, вызначаюцца разнастайнасцю, высокім мастацкім узроўнем, асветніцкім гучаннем.**

**Здымак адлюстраваў урачысты момант вечарыны, якая прысвячалася музыцы слыннага летувіса Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса: радца Пасольства Польшчы Павел Пшэцішэўскі (злева) вітае выдатнага беларускага выканаўцу, лаўрэата міжнародных конкурсаў піяніста Уладзіміра Дулава.**

**У мінулы чацвер зала Дома дружбы зноў поўнілася ўрачыстым настроем прыхільнікаў цыкла "Музыка Літвы і Кароны". Знаны мужчынскі камерны хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева ды музыказнаўца Жана Цыркунова прадставілі маляўнічую панараму хрысціянскай музыкі розных канфесій, распаўсюджаных на Беларусі з даўніх часоў.**

**Гучалі творы невядомых аўтараў XIII ст., напевы з Жыровіцкага ірмалагіёна XVII ст., першыя ўзоры пратэстанцкай музыкі, створаныя пры дварах беларускіх магнатаў, фрагменты з літургій Міколы Равенскага ды Міколы Шчаглова-Куліковіча, "Agnus Dei" з Імшы нашага сучасніка Аляксандра Літвіноўскага... Без малога два дзесяткі нумароў! Тэксты — беларускія, польскія, лацінскія. А на заканчэнне прагучала песня Станіслава Манюшкі на вершы Яна Чачота "Вандроўная пташка".**

**Значную частку праграмы складалі велікодныя напевы, і гэта дазволіла арганізатарам канцэрта прысвяціць яго надыходзячаму святу Уваскрэсення Хрыстова, павіншаваўшы за адным разам шаноўную публіку.**

**С. Б.**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

# Адзін вечар — тры падзеі...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Уключала праграма ўжо вядомую ў гэтым выкананні Шубертаву Імшу. А таксама матэт І. С. Баха "Jesu, meine Freude", найскладаны поліфанічны твор, у якім маэстра Шут раскрыўся і як дапытлівы інтэрпрэтатар старадаўняй партытуры, і як сучасны рэдактар, чый свежы смелы позірк на кананізаваную нотную спадчыну здатныя ацаніць толькі спецыялісты-тэкстолагі.

Прэм'ерай у прэм'еры сталася выкананне кантаты Аляксандра Літвіноўскага "Да Маці Божай".

Зацяганае і немузычнае слоўка "эксклюзіўны", але ж, бадай, акурат яно трапна вызначае характар стасункаў творцы і выканаўцаў, для якіх кампазітар і рабіў гэтую канкрэтную мастацкую працу. Зусім як у лепшыя часы тутэйшых капэл!

Гісторыі нараджэння цудоўнай кантаты (дзе ёсць і малітва, і радасць, і "смутак у мажоры") папярэднічалі пошукі арыгінальных тэкстаў. Яны мусілі быць зусім у духу А. Літвіноўскага: не экзатычна-рарытэтныя і не распаўсюджана-сённяшнія, не артадаксальныя і не адвольна-побытавыя. Усялюдскія, еўрапейскія, беларускія — абліччам, зместам, духам...

Так не бывае? Бывае! — адказаў усемагутны Выпадак, паклаўшы перад кампазітарам беларускі малітоўнічак, складзены і выдадзены ў Вільні ў 1944г. ксяндзом Адамам Станкевічам (падрабязна гл. "ЛіМ" за 21.04.95 г., "Проста знаходка" ці сенсацыя?"). Старэнькая кніжачка зрабілася крыніцай ужо не адной музычнай працы А. Літвіноўскага. У тым ліку і кантаты "Да Маці Божай".

Той, хто ведае Ісціну, выбірае аднаго з нас, грэшных, і водзіць ягонаю рукою. А мы, сучаснікі, стоячы побач, намагаемся "аналізаваць"-меркаваць, стрымліваючы парыванні чуйнага неабмежаванага сэрца і пасцёбваючы досыць абмежаваны і глухі чалавечы свой розум, — намагаемся разважыць, што тут і адкуль.

Адкуль? Адкуль... Адкуль жыццё і непаўторнасць чалавечай асобы ў целе, якое на 80 працэнтаў складаецца з вады і ўсё астатняе ў ім — даўно вядомыя хімічныя рэчывы?..

Адкрытая класікамі драматургічная зграбнасць, яснасць; гарманічная празрыстасць; інтанацыйная прыгажосць. Дасканала простая логіка вечных для ўсіх часоў і народаў музычных эмоцый. Кранальная вабнасць. І гэткая немудрагелістая загадкавасць — для выканаўцаў, для слухачоў, для будучых даследчыкаў.

Не перастаеш здзіўляцца, нібыта разглядаючы вытанчаны мастацкі габелен, марна імкнучыся ўсачыць, як бясконцае адмысловае густоўнае пляценне, зліццё, перакрыжаванне, "гульня ў хованкі" адрозных між сабою колерам, таўшчынёй, фактурай асобных нітак і нітачак нараджае не проста стракатую тканіну — жывы хвалюючы абразок...

Заўважу: маэстра А. Шут і на гэты раз сцвердзіў сваю рэдактарскую волю і выявіў сапраўдную творчую фантазію, адаптаваўшы партытуру А. Літвіноўскага на магчымасці

ВЫСТАВЫ

# Пад грыфам "сакрэтна", альбо Час чырвоных мухамораў

Імя Валяніцна Губарава мінскаму гледачу не дужа вядомае, хоць лёс не пакрыўдзіў яго талентам ці майстэрствам. Проста — персанальных выстаў мастака да цяперашняй, што адбылася ў Мастацкім цэнтры "Жыльбел" у памяшканні Дома прыроды ў Траецкім прадмесці, у яго не было. Асобныя работы, якія мастак даволі рэгулярна прыносіў на агульнарэспубліканскія, тэматычныя выставы ў Палац мастацтваў, губляліся ў вялікім разнагалоссі творцаў розных накірункаў і стыляў, сярод шчыльненька павешаных на сцены абстракцый і натурных замалёвак. Мімалётнае ўражанне ад яго босхаўска-брэйгелеўскіх матываў было моцнае і прыцягальнае, але сярод канцэптуальных і сур'ёзных палотнаў карціны В. Губарава здаваліся выціснутымі па-за межы рэальнасці мастацкага працэсу і таму — несапраўднымі і несур'ёзнымі. Праўда, агледзеўшы ягоную персанальную выставу, я спаймала сябе на думцы, што недзе, неяк, не так даўно бачыла ўжо гэтых смешных мужчын і жанчын, гэтую скажоную перспектыву прасторы, нібы спецыяльна спрошчаную колеравую гаму. І, дайце веры, мастак сам згадаў, што большасць яго прыхільнікаў-гледачоў так і прыпамінаюць ягоныя работы: дужа запомніліся, нешта цікавае і незвычайнае, а вось дзе бачыў і хто аўтар — не памятаю.

Трэба сказаць, што В. Губараў стаў сябрам саюза мастакоў Беларусі нядаўна — у 1991 годзе. І прыняты быў у Саюз — як афарміцель дзіцячых кніжак, а зусім не як мастак, ну, скажам, жывапісец. Натуральна, гэта спадчына тых гадоў, якія Валянцін прысвяціў выдавецкай дзейнасці, будучы спачатку мастацкім рэдактарам у выдавецтве "Беларусь", потым — галоўным мастаком у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Супрацоўнікі, пэўна ж, памятаюць гэтага ціхага, добрага, ветлівага чалавека, які працаваў старанна, спакойна, выпускаў дзіцячыя кніжкі са сваімі малюнкамі, не прэтэндуючы на званне прафесійнага мастака. Гэтак жа спакойна і незаўважна аднойчы знік ён з выдавецтва, распачаўшы сваю самастойную мастакоўскую кар'еру. І трэба сказаць — не без поспеху. Два разы В. Губараў вывозіў свае выставы ў Італію, выстаўляўся ў Польшчы, апошнім разам (год таму) вядомая маскоўская мастацкая галерэя прапанавала зрабіць выставу ў Францыі. Натуральна, можна запярэчыць — выставы былі хоць і персанальныя, але збольшага камерцыйныя. І творы там раскупляліся ў мастака амаль што ўсе. Таму у кватэры Валянціна (майстэрні сваёй ён не мае, працуе то ў пакоі, то на балконе) карцін амаль няма. А на запытанне, ці не шкада так вось развітвацца з творамі, адказвае як сапраўдны філосаф: жыццё яшчэ наперадзе, працаваць хочацца, галоўнае — зрабіць "класны" каталог, без якога за мяжою ты не чалавек і не мастак, ну а творы для таго і пішуцца, каб радаваць людзей. І з жартам дадае, што і цешчы трэба даказаць, што муж яе дачкі, хоць і мастак, але ж грошы зарабляць умее. Зрэшты, на самай справе спадзяецца, што ён выконвае сваё крэда, калі яго карціны становяцца дамінантай інтэр'ера, галоўнай кропкай абжытай чалавекам прасторы.

Скажаце, філасофія салона? Але чым блага, калі ўзровень гэтага салона фарміруе прафесійны мастак, творчая асоба, якая не проста падладжваецца пад густы "ўсіх", а прымушае густы гэтых самых "усіх" лічыцца з яго светапоглядам і мастацкім падыходам. Гэта, відаць, адзіна магчымы і рэальны шлях, якім сапраўды можна сфарміраваць той "культурны" ўзровень абстрактнага "насельніцтва", які беспаспяхова адшукваюць апошнія дзесяцігоддзі інтэлігенты-энтузіясты. Натуральна і тое, што кошт твораў В. Губарава перавышае тую лічбу, якая лічыцца не таннай, але яшчэ даступнай "нашаму" чалавеку. Мастак ведае сабе цану, лічыць, што дыямент і не можа быць танным, каб і гэтым стварацць у пакупнікоў планку — сапраўднае мастацкае палатно, "натуральнае", зробленае сваімі рукамі, з адбіткам аўтарскіх эмоцый, каштуе адпаведна, не як у скверыку ці на рынку. Застаецца, праўда, тут нявырашаным пытанне, а як жа ж быць з тымі прафесіяналамі, якія за свае нацюрморты, афорты альбо габелены не могуць нават аплаціць майстэрні, не гаворачы пра тое, каб зарабіць на прыстойнае жыццё? Відаць, крытэрыі для такіх параўнанняў знайсці складана, і трэба адразу размежаваць падтрымку творчасці і творцаў дзяржаваю і той рынчна-камерцыйны ўхіл нашага жыцця ў апошнія гады, калі творцы мусяць ці самі прабіваць сабе шлях у краіну грашовых заробкаў, ці вышукваць адпаведных менеджэраў.

Валянцін выдатна ўсведамляе, што выстава тут, на Беларусі, не прынясе яму пакупнікоў — магчыма, нават ніводнага. Але не гэта галоўнае, што падштурхнула яго згадзіцца на стварэнне экспазіцыі. Менавіта стварэнне, бо выстаўленыя на экспазіцыі работы — апошняга года, іх мастак стварыў спецыяльна пасля выставы ў Францыі, з якой не "вярнулася" ніводная карціна. Галоўнае для В. Губарава — нарэшце "паказаць" сябе мінскім гледачам, сваім сябрам і проста публіцы, заняць сваё месца ў беларускім мастацтве, не акрэсліваючы яго фармалізаванымі назвамі і крытэрыямі. Думаецца, дамагаецца мастак і папулярнасці (ці вядомасці) у беларускіх колах, хоць і пабойваецца, з пэўнай ноткай напускной важнасці, зайздрасці сталых мастакоў. Так, магчыма, будзе зайздрасць да фінансавага поспеху Губарава-мастака, магчыма, будзе неразуменне яго творчасці з боку крытыкаў і непрыняцце мастакоўскім асяроддзем. Адно яўна — Губараў ужо стаўся з'яваю ў мастацтве, спрэчнай, але неардынарнай.



Кожнае палатно В. Губарава — кампазіцыя з асобных эпізодаў, нібы кадры з фільма, поўныя ўсялякай драбязы, якую мастак кампануе не па законах логікі жывапіснага твора, а зыходзячы з уласнага жадання і светабачання. Зрэшты, сам ён гаворыць, што сюжэты для работ ніколі не прыдумвае



канкрэтнага выканаўчага складу і акустычныя асаблівасці залы. Усіх гукавых чыннікаў кантаты — хор, салістаў, аркестр, арган — удалося звесці разам пакуль толькі на стужцы, праз тыдзень пасля прэм'еры, падчас запісу ў радыёстудыі.

## ПА-ТРЭЦЯЕ.

Выкананнем Соль мажорнай Імшы Ф. Шуберта "Sonorus" аддаў даніну генію кампазітара, 200-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета ва ўсім свеце.

Дома, пасля канцэрта, перагарнуўшы падзабытую з часоў вучнёўства біяграфію Франца Шуберта, я ў нейкім одуме вылучыла факты, пра якія мала хто ведае, захапляючыся "Незакончанай сімфоніяй", "Лясным царом" ці "Вечаровай серэнадай"...

Яшчэ быў жывы Бетховен. У мастацтве афіцыйнай і мяшчанскай Вены запанаваў ужо "эстрадна-пацяшальны" дух (вальс! вальс! вальс!), падтрыманы рэакцыйным аўстрыйскім рэжымам. Тут жа існаваў, і ствараў, і пакутаваў нашчадак правінцыйнага добрапрыстойнага сямейства Франц Шуберт.

Прафесійнай, у звычайным сэнсе гэтага слова, кампазітарскай адукацыі ён не атрымаў.

Пакутаваў ад безграшоўя і неўладкаванасці жыцця.

Толькі ў год свайго паўналецця напісаў 144 песні, 4 зінгшпілі, 2 імшы, 2 фартэпіянныя санаты, струнны квартэт і шмат іншых п'ес.

У 19 гадоў быў аўтарам пяці сімфоній.

Ахвотна працаваў у жанры духоўнай музыкі, хаця лічыў сябе атэістам.

Прызнанне венскай публікі зазнаў у апошні год жыцця, калі быў з поспехам наладжаны яго першы і адзіны аўтарскі канцэрт.

Пражыў Франц Шуберт **толькі 31 год!**

Ці ёсць узрост у таленту?

Паводле нашай завядзёнкі — ёсць. Інакш чаму кажуць: "малады талент" і па-сур'ёзнаму спрачаюцца, ці можна 40-гадовага кампазітара называць яшчэ маладым творцам, ці ўжо не варта?

"Стары" Шуберт пражыў толькі 31 год...

Не трэба стрымліваць пачуцці, баючыся "перахваліць маладога". Кожнае "лішняе" добрае слова не будзе лішнім для яго. Бо яму ўсё жыццё наканавана па-свойму пакутаваць праз тое, што нарадзіўся з іскрынкаю Божай у душы. І асуджаны быць мастаком...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



спецыяльна, яны самі па сабе нараджаюцца, фармуюцца з нейкіх назіранняў і разваг. Нейкае празарэнне — і ён ужо бачыць сялян, што едуць на тоўстай бручцы ("Пераможцы апошняга ўраджаю"), альбо распаўнелую сямейную пару, якая збірае летні лясны ўраджай ("Прыклады прыемнага правядзення часу"), альбо бадзёрага жылістага мужычка, які нясе ў сонечны дзень кошык чырвоных грыбкоў ("Час чырвоных памідораў"), ці чалавечка, што прыхінуўся да старога плота, побач з жонкаю, якая развешвае бялізну ("Марыць не шкодна")...

Углядаешся ў работы В. Губарава — як у дзяцінстве ў трубу-калейдаскоп: павярнуў налева — сінія квадрацікі, направа — чырвоныя трохкутнікі... Але калі зірнеш уважлівей, заўважаеш не проста змест, а тую сутнасць, якую хацеў давесці да гледача мастак. За простай душэўнай калізіяй хаваецца сэнс, за прастадушшам — унутраная напружанасць, за тэкстам — падтэкст, што і з'яўляецца ў творах Губарава галоўным. Так, яго творы шматслойныя, метафарычныя, іранічныя, з гумарам, які відочна прарываецца праз эзопаву мову, але — ніколі не злосныя, як і сам мастак. Ніколі ён не зневажае сваіх герояў. Наадварот, падаецца, што ён, як дзед на лавачцы, распавядае нам, дзеткам, байкі пра людзей, што жывуць такім зразумелым і такім знаёмым жыццём — развешваюць бялізну, любяцца, сварацца, п'юць, гуляюць у даміно, працуюць і адпачываюць, як хто здольны. І здаецца, што жыццё гэта — як у старой кінастужцы часоў перад альбо пасляваенных: рэчы на людзях — нібы трохі стылізаваныя, просты іх занятак сярод сяк-так пастаўленых платоў, брудпаватых вуліц, простых вясковых хат. Гэта, магчыма, жаданне мастака самому вярнуцца ў час свайго дзяцінства, у свет дзіцячых уражанняў, аднавіць тадышнія чароўныя, трапяткія падрабязнасці праз пафас і іронію адначасова. Гэта, мажліва, і жаданне закрануць самыя патаемныя стрункі гледача, які перанасычаны зласлівай чарнатой сённяшняга дня і марыць хоць неяк схавацца ў натуральнай прастаце, якая не надакучае і будзіць самыя ўсцешныя развагі.

Угледзьцеся, як дакладна ўдаюцца мастаку бытавыя замалёўкі. Зрэшты, адчуваецца рука прафесіянала (В. Губараў вучыўся ў Маскве паліграфічнаму майстэрству, па размеркаванні і па волі лёсу — жонка аказалася беларускай — прыехаў працаваць у Мінск).

Вельмі шчырае і непасрэднае яго ўспрыманне наваколля. Напрыклад, "Яўныя перавагі кропкі кругавога агляду" альбо "Арэлі", што так нагадваюць безмежныя фантазіі сялянскіх святочных фэстаў Пітэра Брэйгеля, пакідаюць уражанне непасрэднай падключанасці мастака да гэтага свята жыцця, дзе кожны чалавек заняты сваёй справаю, дзе людзі ажно перанасычаюць палатно, запаўняючы яго цалкам. Парушаюцца пры гэтым усе законы кампазіцыі і перспектывы, але гэта не дылетанцтва, ці самадзейшчына, а сапраўдная гульня — і хочацца, вельмі цягне спыніцца ля работы, разгледзець кожную дэталь гэтага прыдуманага свету, самому прайсціся па вулачках гарадка, адчуўшы сябе ў ролі таго мужычка, што сочыць у шчыліну за суседзямі.

Тыпажы В. Губарава вельмі пазнавальныя, нягледзячы на гіпербалу, якая толькі павялічвае ўражанне. Мастак не супрацьпастаўляе сябе сваім героям, не крытыкуе іх, ён падае іх такімі, якімі б яны былі ў жыцці, толькі ў атачэнні камізму сітуацый, падгледжаных ім. Гэта — гратэск, а не сатыра ці пасквіль, гэта нават замілаванне і шчырае захапленне.

Ды і сам Валянцін па характары чалавек непрадказальны, як і яго работы. Не зразумееш дакладна, дзе пачынаецца ў яго сур'ёзная гаворка і канчаецца гумар. Ён нібы саромеецца ўвагі гледачоў, журналістаў і знаёмых, але ў той жа час ведае і паказвае, што яму ёсць чым і ганарыцца. Бо вынікі творчасці — у зале і прыцягваюць мноства людзей. Ходзіш і здзіўляешся, ходзіш і разважаеш: вось тут — класіка Брэйгеля, Кіш, Генераліч, а тут — прымітыў наскальных роспісаў ці дэкаратыўны лубок з характэрнай цягай да сіметрыі мудрагелістага малюнка, паяснялынага тэксту, а тут — народныя "маляваныя посцілкі"... І ўсё — цікава. Таму што ў мастацтве Валянціна Губарава — не проста паўтор, прымітыў, лубок, наіў. Мастак стварае і прапаноўвае нам, дарослым, гульню. Яго наіўнасць — свядомая, прымітыўнасць — прыдумана спецыяльна, а прастата — толькі на паверхні. Так, мастак жартуе, але з дапамогай гэтых жартаў ён вядзе гаворку пра мінулае і сённяшняе, пра нас саміх.

Прыслухаемся ж...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: мастак Валянцін Губараў і работы з яго апошняй выставы.*

# Каханне да паэта — тайна

***Маскоўскую тэлеграму з Дома акцёра імя Яблачкінай падпісала Марыя Міронава: маўляў, дзякуем актрысе Ларысе Антосевай за спектакль, дзе яна адметна выканала сваю — адзіную — ролю. Дзякуем Коласаваму тэатру з Віцебска за такія ўдалыя паказы.***

І то праўда: замест колішніх гастроляў у мастацкую сталіцу нашай колішняй агульнатэатральнай прасторы час-почас трапляюць "на паказ". Балазе, абазнаныя маскоўскія прафесійнікі не прамінаюць іх, ведаюць, куды хадзіць па мастацтва. Зала Дома акцёра на спектаклі "Размова ў доме Штайн..." была паўнюткаю.

Гэтую самую "Размову..." Ларыса Антосева выклікала на сваю ўласную галаву амаль самастойна. У інтэрв'ю тэлебачанню строга пажадала, каб "Шарлота фон Штайн засталася тайнай актрысы і рэжысёра" — Валерыя Маслюка. Гэта, маўляў, яе, акцёрскі шал, душа, вар'яцтва... Як і першая спроба асвойтацца з сучаснымі тэатральнымі абставінамі: знайсці п'есу і перакладчыка (Уладзімір Папковіч лішні раз давёў свой перакладчыцкі клас, свой узровень валодання асаблівай моваю — тою, што прамаўляецца са сцэны), завабіць рэжысёра... Маслюка, праўда, надта вабіць не трэба было: ацаніць вартасці драматургіі Петэра Хакса на сцэне — значыць, давесці свой рэжысёрскі клас, узровень сваёй сцэнічнай мовы, якая можа тэкст ілюстраваць, а можа — паглыбляць, выкрываць, уціскаць...

"Цяжка даць веры, што п'есу пісаў мужчына", — заўважыла актрыса Антосева з уласцівай ёй любоўю да інтанацыі. Уласцівыя ёй умельства, абазнанасць, дасведчанасць яна скарыстала ў спектаклі як падставу для ўзвышэння жаночага духу. "Духу жаноцкасці?", — перапыталі ў актрысы. "Духу жанчыны. Мы, жанчыны, мусім кахаць, калі не можам перамагчы", — Антосева зрабіла сур'ёзны твар і, бадай, ніхто не падумаў у той момант, што яна проста цытуе сваю гераіню. Шарлоту, Лоту, спадарыню фон Штайн, магчыма, генія кахання, якая адмовіла генію літаратуры ў тым, на што ён... і не прэтэндаваў. Шарлота адмовіла Гётэ ў каханні, якому, паводле спектакля Валерыя Маслюка, перадусім патрапіла яго навучыць.

Малая сцэна коласаўскага тэатра — сцэна ў фае. З-за сучасных калонаў мусіць з'явіцца гераіня Хакса, прадстаўніца свайго стагоддзя, значыць, стагоддзя генія Гётэ: васемнаццатага. Ягоная ганебнасць роўная ягонае велічы (гэта я пра стагоддзе). Заднік між калонаў уяўляе сабою аркуш Гётэвага рукапісу. Ён правіўся бясконцую колькасць разоў: нешта вучнёўскае, нешта падрыхтоўчае або навучальнае з'яўляецца ў атмасферы фае. Напэўна, гэта справядліва: Гётэ, якога мы не ўбачым, але якому будзе прысвечана хіба не кожная хвіля маналога гераіні спектакля, самім светам, самімі абставінамі і чым там яшчэ быў асуджаны. Асуджаны на рознае, напрыклад, навучацца пачуццёвай вытанчанасці ў жонкі гера фон Штайна. Гуляць у тэатр. Вышываць. Адбываць на балях. І як толькі ён патрапіў пісаць "Фаўста"? Грамада вымагала вонкавага кшталту, ведання ўмоўнасцяў, наследавання прыстойнасці. Гётэ, як вядома з ягонага ліста да Шарлоты, "падумаў пра матылька, які ляціць на агонь". Зрэшты, гэтых лістоў на глядацкія вочы выцягнуць не жмут і не стос, а цалюткую капялюшавую кардонку. Шарлота прыбегла з балю, схапіла яе, вялікую, шурпатую, цяжкую ды выцягнула... на авансцэну. Мо каб іх, сведчанняў ды сведкаў, пазбыцца? Такім чынам ненадоўга праяснелі абставіны, якім падпарадкуецца гераіня актрысы Антосевай. Сярод лістоў у кардонцы трапляецца балванка для парыкоў, пашчапаная цвікамі ды булаўкамі: гэтая балванка, насуперак педантычнай умове драматурга Хакса, выканае ролю фон Штайна. Важнае рашэнне! Не знарочыста падрыхтаваная лялька-муж, не васковая фігура, ці то з капрызу Шарлоты зробленая, ці то з логікі першай пастаноўкі п'есы ў Германіі, а драўляны пацурбалак адпаведнае формы, які выпадкова трапіў у рукі ды ператварыўся ў маўклівы аб'ект прэтэнзій, абвінавачванняў і Бог ведае чаго яшчэ. Мяркую, сам спектакль у спектаклі (спаведанне-абурэнне Шарлоты перад кавалкам дрэва) мусіў прадставіць рэпетыцыю будучай чаўпятні, будучага разбіральніцтва з мужам. Прадставіў — адзіна прымальную магчымасць для Шарлоты выгаварыцца, паспавядацца і... зноў узяцца за сваё: за каханне да Гётэ. Актрыса Антосева прадстаўляе драму жанчыны, якой за трыццаць ("увайшла старая гадоў дваццаці васьмі", — засведчыла пісьменніцкім пяром наступнае, дзевятнаццатае стагоддзе). Драма ў тым, што жанчына кахае паэта. Паэт больш за ўсё заняты сабой. Значыць, паэзіяй. Каштоўнасць дачыненняў з Шарлотаю хіба... у вонкавых прыкметах кахання, у вонкавых ягоных праявах. Паэт аддае перавагу халаднаватай пяшчоце перад жарсцю, вытанчанасці перад палкасцю. Так сведчыць спектакль, так вырашыў рэжысёр. Задача актрысы толькі ўскладнілася. Пакачацца перад публікаю ў фіжмах, скінуць туфлі ды ў адных панчохах трываць холад паркета тэатральнага фае, — яшчэ не доказ роспачы або абурэння. Ларысе Антосевай выпадае насамрэч цяжкая праца псіхалагічных доказаў, назапашвання якасных душэўных зменаў, увасаблення гэтага назапашвання ў перамены на працягу дзеі, не самай доўгай па часе (гадзіна дваццаць хвілін). Ад выхаванай ды стрыманай дамы з вышэйшага свету да жанчыны пакрыўджанай; ад гульні ў хваляванне, ад прадстаўлення перад драўляным слухачом да існага пачуцця і ўсведамлення: кахаю і нічога з сабою зрабіць не ў стане, і нічога не буду з сабой рабіць! (Уяўляю пакутлівы шлях феміністак у змаганні за прастату высновы: жанчыны — палова чалавецтва!) Каб увасобіць апісанае, актрысе не выстачыць толькі абазнанасці, дасведчанасці і выдатнай тэхнікі выканання. Ува ўсё гэта, як пісалі раней, трэба ўкласці душу. І хораша пракантраляваць ейныя парыванні, як пішуць цяпер. Шарлота чакае ліст ад Гётэ, актрыса напружана ўслухваецца ў кожны гук за пляцоўкай... А чуваць крокі выпадковых наведнікаў тэатра, важданіну службаў асвятлення, бразганне ды галасы дзесьці на ніжніх паверхах тэатра... І калі чуецца паштовы званочак, дых пераводзіць не актрыса — публіка: Гётэ... кахае?! Ды замест прызнання — пасылка з недарэчнымі апісаннямі будзённых клопатаў, шараговых пачуццяў... Гётэ — геній мастацтва. І, паводле драматурга Хакса, гэтага абсалютна стае, каб не замахвацца на геніяльнасць у каханні. Гётэ па-свойму падступлівы, капрызлівы, няўважлівы, Гётэ жыве іншым светам і ў іншым свеце, на іншых хуткасцях, з іншымі запатрабаваннямі, а Шарлота, паводле яе самой, "жыве толькі пакуль жыве". І геній яе кахання, на жаль, не належыць будучыні, а мусіць спраўдзіцца або не спраўдзіцца ў часе Шарлоты. Матылёк ляціць на агонь, планета трапляе ў залежнасць ад Сонца, вакол мастака круціцца свет і неабачліваму складніку гэтага свету можна і крыльцы абпаліць, і з арбіты саскочыць, і галаву згубіць...

Карацей, у каханні ніхто не вінаваты, спектакль гэта даводзіць, але менш за ўсё схільны да рыторыкі. Пражыць у сцэнічным часе з вялікім выдаткаваннем энергіі, давесці, як можна жыць, пакуль жывецца... Жыццё чамусьці застаецца, калі каханне пайшло! А калі каханне чамусьці засталося, дык як тое забытае віно, што з цягам часу не каштоўнасці й смаку набывае, а ператвараецца ў воцат...

Процьму гэтых наступстваў, акалічнасцяў або націскаў мог бы прадугледзець або высветліць і рэжысёр: адно толькі рашэнне з парыковаю балванкаю замест лялькі-Штайна рэзка і па-сучаснаму ўдакладніла драматургаву прапанову! Надало іншае якасці, іншага вымярэння спектаклю гераіні, які мусіць падпарадкаваць сабе актрыса, — але як, з якой доляй умоўнасці або даверу, з чыёю вызначанаю прысутнасцю — гледачоў або гётэвых лістоў і толькі? Актрыса адна на пляцоўцы. Узяўшыся за выкананне паводле псіхалагічнае школы, з кожным спектаклем ці то дасканаліць, ці то ўдакладняе сваю гераіню. Па-майстэрску працягвае размову-маналог, то выкрывае, то стрымлівае свой "шал, душу, вар'яцтва". Яе, актрысіна рацыя: няма пільнае патрэбы ўдакладняць гістарычныя падрабязнасці, адпаведнасць часу ды праўдзівасць жыццёвай гісторыі, якую ўзялася абараняць праўда мастацтва. Шарлота фон Штайн пасля ўсіх сваіх споведзяў ды шчырых прызнанняў, — усё яшчэ тайна, якую не высветліў нават тайназнаўца Гётэ.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ВАРУНКІ

# Сцяною крапасною ахініся...

ШТО СЁННЯ кажуць нашы людзі ў адказ на звычнае пры сустрэчы пытанне: "Як маешся?" Нехта пацісне плячамі: "Ат, пакрысе, як усе..." Нехта горка пасміхнецца: "А як па-руску — маюсь..." Нехта іранічна ўспомніць паэтава: "Не прасіце, не чакайце светлых песень ад мяне..." А нехта і злосна буркне: "Ворагу свайму таго не пажадаю!.." Забыліся мы ўжо на той час, калі гэтае "Як маешся?" успрымалі проста як вітанне, сфармуляванае вось гэткім запытальным чынам, і калі ў адказ на яго з радаснаю палёгкаю адказвалі: "А дзякуй Богу, не скарджуся", ці: "З Божае ласкі ёсць хлеб і да хлеба". Сёння мы збяднелі. І не проста збяднелі — агалелі, ператварыліся ў жабракоў. А ў дадатак — страцілі жыццёвую перспектыву, веру ў заўтрашні дзень. Запанавала беспрасветчына. Ужо не суцяшаюць нават самыя красамоўныя і найшчырэйшыя, з прыцісканнем рукі да сэрца, абяцанкі-цацанкі. І ўсё часцей і часцей агукаецца ў нашых душах злосць і незадаволенасць. І адрасная, і бязадрасная. На ўсіх і на ўсё. І ўсё часцей і часцей зрываемся мы на крык, на слёзы, на праклён. Роспач пасялілася ў нашым беларускім доме. Не жыццё стала, а суцэльныя стрэсы, суцэльныя мітрэнгі, зрывы...

А вось жа дзіўная рэч! Мала хто з нас шукае паратунку ў... псіхолага. Прыгадайце хоць бы тую абрыдлую, пэўна, ужо і самым заўзятым аматарам серыялаў "Санту-Барбару". Там жа ледзь што — героі адразу шукаюць псіхалагічнай падтрымкі ці дапамогі. А прычыны? Смешна і казаць! Нам бы іх беды ды клопаты! Мы хутчэй у пятлю, чым да псіхолага.

Сумныя і, пэўна ж, наіўныя разважанні. І прыйшлі яны да мяне не падчас прагляду згаданай "Санты-Барбары" (якую, прызнаюся, гляджу — злуюся на самую сябе, але гляджу, як і многія мае сяброўкі і таварышкі). Думалася пра ўсё гэта, калі трапіла (у пэўным сэнсе досыць выпадкова) у Лабараторыю прыкладной педагагічнай псіхалогіі Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, пазнаёмілася ды пагаварыла з загадчыцай лабараторыі Аленай Осіпавай, псіхолагамі Аленай Міхайлоўскай і Аленай Чуменкай.

Лабараторыю гэтую ведаюць многія бацькі і дзеці (і не толькі па штотыднёвай радыёперадачы "Цяжкі панядзелак", якая рыхтуецца з дапамогаю супрацоўнікаў лабараторыі і карыстаецца вялікай папулярнасцю). Сюды можна і пазваніць у цяжкую хвіліну, і прыйсці — аднаму ці разам з тым, з кім не знаходзіш паразумення. Сюды маці ці бацька прыводзяць малых дзяцей, калі заўважаюць, што іхнія хлопчык ці дзяўчынка "не такія", як іншыя дзеці. Сюды адшукваюць дарогу маці (часцей за ўсё, вядома ж, маці, нават і тады, калі ёсць і бацька) з тымі ж так званымі "цяжкімі падлеткамі", калі адчуваюць, што сын ці дачка ўсё больш аддаляецца, старонiцца, не ідзе на кантакт, не хоча паразумелacці. Сюды ж урэшце прыходзіць і 60-гадовая маці, якая не знаходзіць агульнай мовы са сваім 40-гадовым сынам. Ну і, само сабою, мо найчасцей прыходзяць сюды — па дапамогу і параду — школьныя псіхолагі, штатныя стаўкі якіх прадугледжаны ва ўсіх школах. Дапамога, парада спецыялістаў ім часта вельмі патрэбна. Бо хоць і рыхтуюць сёння псіхолагаў у многіх ВНУ, скажам, у тых жа БДУ і педуніверсітэце, у сістэме таварыства "Веды", — усё ж патрэба грамадства ў гэтых спецыялістах не задаволена, узровень падрыхтоўкі таксама не заўсёды высокі, часам жа працуюць на гэтых адказных пасадах людзі наогул з мінімальнай падрыхтоўкай.

Гаворка мая з трыма Аленамі была спантаннай, хаатычнай, аднак жа зацікаўленай, нават захопленай. Не ведаю, што ўжо тут болей сказвалася — ці прафесійныя якасці маіх суразмоўніц, ці іхнія чыста чалавечыя абаяльнасць, эмацыянальнасць, жывасць характараў, хутчэй — тое і другое разам, але я вельмі хутка трапіла ў палон іхняй красамоўнасці, у моцнае прыцягальнае поле іхняй самаадданасці і апантанасці, улюбёнасці ў сваю справу, і неўзабаве паверыла, што людзі, якія прыходзяць сюды са сваёю нялёгкаю бядою, сапраўды знаходзяць тут падтрымку, дапамогу і душэўную палёгку.

А напачатку я, як, напэўна, большасць з нас, была настроена досыць скептычна. Ну, вядома, слова, кажуць, лечыць і калечыць, ды ці не гаворыцца гэта хутчэй у пераносным, вобразным плане, чым у рэальным? Больш за тое, часам і такое чуць можна, што, маўляў, словам і забіць можна... Сама наша нацыя, кажуць, чыста вербальная, адсюль, здавалася б, павінна была б быць асаблівая павага да слова, а ў нас і тут — усё не як у людзей... Зрэшты, я пра слова таму, што ўнушэнне, нейкі псіхалагічны ўплыў на чалавека ажыццяўляецца ўсё ж праз яго, пры дапамозе яго — слова. А слоў мы цягам гадоў і дзесяцігоддзяў столькі наслухаліся, што давер да іх страчаны ці не цалкам. Вось таму і да псіхолага ў нас той самы скептыцызм, ці нават і згаданы недавер. Мае ж суразмоўніцы сказалі вось што (у сціслым запісе).



*"Кансіліум". Фота В. Ганчарэнкі.*

**А. Осіпава:** "У савецкі час мы ў асноўным арыентаваліся на калектыў, жылі па прынцыпе: "Добра калектыву — добра і мне". Апошнім жа часам у грамадстве адбыліся карэнныя змены. На першы план выйшаў чалавек, індывідум, ягоны дабрабыт, шчасце, ягоны, скажам так, камфортны стан душы. Інакш кажучы, прынцып змяніўся: "Добра мне — добра і калектыву". Цэнтры псіхалагічнай дапамогі і заклікаsuccessfully аказаць дапамогу кожнаму асобнаму чалавеку, калі ў яго ўзніклі праблемы, цяжкасці, жыццёвыя складанасці, калі да яго прыйшло гора, калі ім завалодала скруха, трывога. Гэтым займаецца і наша лабараторыя. А што да радасці, дык з гэтым адчуваннем чалавек ідзе ў нейкае іншае месца, а не да нас. З радасцю, на жаль, мы спатыкаемся рэдка".

**А. Міхайлоўская:** "Так, сапраўды, мы маем справу з жыццёвымі праблемамі і цяжкасцямі людзей. Асабіста я доўгі час працавала ў школе. І там псіхалагічная дапамога патрэбна не толькі дзецям, але таксама настаўнікам і бацькам. У свеце, у грамадстве стала вельмі шмат злосці, зайздрасці, гвалту, брыдкаслоўя, і ўсё гэта абрыньваецца на чалавека, у тым ліку і на настаўніка. А ён і без таго зведвае вялікія псіхічныя і фізічныя перагрузкі. І наша задача — дапамагчы чалавеку вярнуць веру ў свае сілы, запаважаць, палюбіць сябе, адчуць сябе камфортна і ўтульна".

Пэўна, з тае прычыны, што я аказалася супрацоўніцай "ЛіМа" — газеты творчай інтэлігенцыі, мае суразмоўніцы загаварылі пра псіхалагічную дапамогу творчым людзям, у якіх часта свой погляд на жыццё, сваё ўспрыманне яго, якое часам можа не ўкладвацца ў агульнапрынятыя рамкі і ўяўленні. Вядома, я тут жа ўключыла свой дыктафон.

**А. Чуменка:** "У нашай практыцы былі выпадкі, калі да нас звярталіся творчыя людзі. З імі працаваць нялёгка. Ніколі не забуду адну нашу паэтэсу, у якой былі праблемы з сынам, здаецца, музыкантам. Родныя людзі не разумелі адно аднаго, не знаходзілі агульнай мовы. Прычына мне бачыцца ў тым, што творчаму чалавеку ўласціва вялікая ступень свабоды — свабоды мыслення, уяўлення, фантазіі, слова... Чаму цяжка было працаваць? Бо трэба было выходзіць, так бы мовіць, за межы поля рэальнасці. Мне было цяжка пранікнуць у семантычны рад пачуццяў паэтэсы, каб за ўяўнымі, прыдуманымі, нафантазіраванымі пачуццямі ўгадаць сапраўдныя, рэальныя..."

**А. Міхайлоўская:** "Мне здаецца, задача псіхолага ў выпадку, калі блізкія людзі не знаходзяць паразумення, пастарацца пашырыць сенсорныя магчымасці свайго кліента, настроіць яго на разуменне таго, што ёсць нешта такое, чаго ён не ведае, не адчувае, а калі ён уведае, адчуе, дык і праблема вырашыцца".

**А. Осіпава:** "Творчы чалавек мае вялікае эмацыянальнае поле, і гэта часта прыводзіць яго да дзеянняў менш рацыянальных, а больш эмацыянальных. Ён больш падвержаны розным стрэсам, псіхатраўмам. Няўменне саўладаць з уласнымі пачуццямі, уласнымі эмоцыямі прыводзіць да паслаблення маральнага кантролю над сабою. Таму творчаму чалавеку сёння, безумоўна, жыць цяжэй, чым іншым, так званым простым людзям. Ён часцей адчувае незадаволенасць сабой, адзіноту, пустэчу, стомленасць, нерашучасць, непаўнавартаснасць, псіхалагічны дыскамфорт. І што? Часта, на жаль, здараецца, што дзеля пазбаўлення ад гэтага творца пачынае ўжываць алкаголь, ці які іншы наркотык, што прыносіць пэўную палёгку, здымае эмацыянальнае напружанне. З'яўляецца добры настрой, душэўная раўнавага. Толькі ж — ці надоўга? Шлях гэты згубны, разбуральны".

**А. Чуменка:** "Адзін са спосабаў даць выйсце эмоцыям — уласная творчасць. На жаль, яна часам не толькі не ратуе, а нават і паглыбляе душэўны крызіс, прыводзіць да псіхалагічнага надлому; не толькі да алкаголю, але нават і да суіцыду. А, між тым, у чалавека, у кожнага чалавека ёсць уласныя магчымасці выйсці з крызіснага стану — маю на ўвазе аўтатрэнінг".

**А. Міхайлоўская:** "Ды бяда ў тым, што алкаголь здымае стрэс адразу ж, і высілкаў тут асаблівых прымяняць не трэба, а заняцца аўтатрэнінгам, параіцца з урачом ці псіхолагам, каб ён дапамог разабрацца ва ўласным "я", надта ж не хочацца. У кожным чалавеку змагаюцца між сабою некалькі гэтых самых "я", так званых субасоб. І калі чалавек адчувае, што ёсць нейкае галоўнае "я", якое можа загадаць усім іншым субасобам, іншым "я" падпарадкавацца яму, тады ўсё ў норме. А вось калі чалавек паддаўся пэўнай субасобе і тая ашчарэпіла яго сваімі лапамі, вось тады вырвацца з яе абдымкаў цяжка. Альбо калі жыве ў згодзе з усімі сваімі субасобамі. Адна кажа: "Я вып'ю", а другая не пярэчыць: "Ну, выпі..."

**А. Осіпава:** "На жаль, культура творчага чалавека не заўсёды высокая, хоць гэта і гучыць, як нонсенс. Маецца на ўвазе ўнутраная культура. Ёсць у чалавека веды, здольнасці, вопыт, а вось самапавагі відочна бракуе. Адказнасці за свой талент — бракуе...

Хацелася б закрануць і праблемы творча адораных дзяцей. Паводле сацыялагічных дадзеных, адораных асоб не так і шмат — толькі тры працэнты папуляцыі. Проста бацькі вельмі часта прымаюць за адоранасць, за таленавітасць звычайныя дзіцячыя поспехі — рана навучылася дзіця чытаць, пісаць, маляваць: у тры-чатыры, скажам, гады. А ў сем-восем гадоў хлопчык ці дзяўчынка — "як усе". Бацькі — у роспачы: як жа так, што, дзе і калі мы ўпусцілі? Ну, а калі творчыя здольнасці сапраўды праявіліся, то агульнапрынятыя рэкамендацыі могуць і не падыходзіць, тут падыход павінен быць строга індывідуальны".

**А. Чуменка:** "З бацькоўскімі перажываннямі-расчараваннямі мы сутыкаемся даволі часта. Часцей за ўсё шкада бывае і бацькоў, і дзяцей. Бацькі на мяжы эмацыянальнага зрыву, а дзіцятка іхняе — замардаванае, аслабленае, апатычнае. Яму цяжка вытрымліваць вымушаныя нагрузкі, а бацькам хочацца, каб іх нашчадак быў больш здольны, чым яму наканавана прыродай. Бацькам бачыцца нейкая асаблівая адоранасць, а гэта ўсяго толькі паскораная хуткасць мыслення, гнуткасць мыслення, здольнасць з простых рэчаў выводзіць досыць складаныя гіпотэзы. Прыгадваю нядаўні выпадак. Маме хочацца, каб сынок гаварыў па-англійску. Ён вучыцца ў звычайнай школе, а мама паставіла сабе за мэту перавесці яго ў англійскую, а пакуль што прымушае яго чатыры разы на тыдзень займацца англійскай мовай, а хлопчык са слязьмі на вачах гаворыць, што ён не любіць англійскай, што ён любіць матэматыку, і кампенсуе гэтае непаразуменне з мамай кепскімі паводзінамі ў школе".

**А. Міхайлоўская:** "Свае нерэалізаваныя мары, уласны нязздейснены патэнцыял дарослыя часта вельмі груба навязваюць сваім дзецям. Алена Анатольеўна гаварыла пра тры працэнты адораных асоб у людской папуляцыі. Можа, яно й так, хоць, хутчэй, ад нараджэння ўсе дзеці здольныя, толькі трэба ўмела і правільна накіроўваць і развіваць іхнія здольнасці. І наш клопат — дапамагчы бацькам выявіць сапраўдны патэнцыял іхніх дзяцей і правільна развіваць яго".

**А. Осіпава:** "Творчы чалавек у сям'і, скажам мякка, нязручны чалавек. Яму ўласціва павышаная ступень суперажывання, паглыбленае разуменне стану душы іншага чалавека, ён можа як бы ўлезці ў скуру іншага чалавека, і ў гэтым ягоная адметнасць, тая самая геніяльнасць, а сямейнікам з ім — нялёгка. Прынамсі, вельмі часта нялёгка. Творца — мастак, пісьменнік, скажам — усе зрухі сваёй душы, усе свае самыя патаемныя мары, пачуцці, усе пакуты і радасці сэрца аддае да рэшты сваім творам; і людзі, чытаючы, знаёмячыся з гэтымі творамі, пазнаюць у іх саміх сябе, свае пачуцці, свае мары, суперажываюць з героямі рамана ці спектакля, зведваюць працэс маральнага самаачышчэння. У гэтым, пэўна, і галоўны сакрэт мастацтва, ягоная моц і даўгавечнасць. Чым больш укладзена творцам — тым большая аддача. Пэўна, ад гэтага залежыць і тое, што ля адных карцін мастакоў, напрыклад, ты адчуваеш сябе вельмі добра, ты знаходзіш з выявою нейкае ўнутранае паразуменне, у табе нараджаюцца нейкія цёплыя светлыя пачуцці, а каля іншых табе няўтульна, яны не агукаюцца ў табе анічым, ты зусім абыякавая да намаляванага на іх. Мне асабіста цікавыя тыя мастакі, якія працуюць не ў традыцыйнай рэалістычнай манеры, а тыя, што працуюць сімваламі, перадаюць карціну эмоцый, пачуццяў, перажыванняў. Я тут хутчэй знаходжу сябе, свой стан, свае вобразы, так бы мовіць, раствараюся там і гэтым самым здымаю свой стрэс".

**А. Чуменка:** "А ўвогуле любое мастацтва з псіхалагічнага пункту гледжання мае права на існаванне. Калі мы глядзім, да прыкладу, на "Джаконду", у нас узнікаюць у прынцыпе аднолькавыя агульначалавечыя пачуцці са стандартнага набору іх (радасць, здзіўленне, сорам, цікавасць і г. д.), а калі глядзім на абстрактны жывапіс, тут ужо ў кожнага з нас узнікае спектр тваіх асабістых, індывідуальных пачуццяў. Плён творчасці — гэта яшчэ і элемент псіхатэрапіі. Чалавек гадамі ходзіць глядзець на адну і тую ж карціну, бо менавіта яна "націскае" на нейкі душэўны клавіш і чалавек уключаецца на

*(Працяг на стар. 15)*

## Педагог і скульптар

**Генадзь Мурамцаў — скульптар сталы і далёка не апошні на сённяшні дзень у "рангу" творчых амбітнасцяў. Яго многія станковыя творы закуплены Нацыянальным мастацкім музеем (з іх пераважна і склалася экспазіцыя выставы) у малой зале таго ж музея. Манументальныя ж творы — мемарыял К. Заслонава пад Оршай, манумент камсамольцам-падпольшчыкам "Асінторфа" на аўтамагістралі Масква—Брэст, помнікі маршалу В. Сакалоўскаму ў Гродне і вызваліцелям Полацка, помнік Леніну ў Оршы занатаваны ў**



**энцыклапедыі, іх гераічная тэматыка сталася той адзнакай савецкага часу, якую проста немагчыма было абысці ў пэўныя гады ніводнаму творцу. Зрэшты, згадваюцца і апошнія, больш камерныя па памерах, затое больш эмацыянальна-лірычныя работы Мурамцава — мемарыяльныя дошкі М. Багдановічу ў Ялце і Яраслаўлі, бюст У. Дубоўкі для мядзельскай сярэдняй школы N 1 і іншыя. Вучні гавораць пра Генадзя Ільіча, як пра выдатнага выкладчыка (ён ужо больш за трыццаць год выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў малюнак). А гэта, паводле ацэнкі саміх мастакоў, для скульптараў — найцяжэйшы прадмет, якім сам. Мурамцаў валодае дасканала. Яго заняткі запамінаюцца, і былыя вучні, сённяшнія майстры, згадваюць дружалюбную атмасферу аўдыторыі, дасціпныя жарты выкладчыка і той прымус да малявання, які яны тады маглі і не разумець, але які меў немалую ролю ў іх станаўленні як мастакоў.**

**Г. Мурамцаў пачынаў у шасцідзесятых. Пачынаў манументальна, атрымліваючы дзяржаўныя заказы, граматы і прэміі. Пачынаў нароўні са сваімі сябрамі і ў плыні памкненняў той эпохі, якая нараджала манументальныя вобразы, у прыватнасці, для скульптуры — у вялікай колькасці. Выдатна валодаючы пластыкай стварэння вобраза, скульптар паспяхова займаўся і партрэтамі. Іх цэлая галерэя: Лучанок, Багдановіч, Керзін, Мележ, Быкаў, Куляшоў, Азгур, Бялыніцкі-Біруля, Казінец, Машэраў, жанчыны-калгасніцы, студэнткі, фізікі і лірыкі... Адчуваецца ў ягоных творах моцная школа А. Бембеля, Л. Лейтмана, якія выкладалі яму ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Адчуваецца дакладная акадэмічная манера, якую даў скульптару інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна, яго выкладчыкі М. Керзін, В. Сакалова, іншыя. Настаўнікаў сваіх Генадзь Ільіч прыгадвае з павагай і ўдзячнасцю. "Андрэй Бембель быў выдатным педагогам. Яго дакладнае, зразумелае і яснае выкладанне, метад навучання бачанню і разуменню сутнасці скульптуры застаюцца непераўзыдзенымі і з'яўляюцца асноваю беларускай мастацкай педагогікі", — кажа сёння сам настаўнік маладых скульптараў Г. Мурамцаў пра свайго педагога.**

**На яго персанальнай выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі — мноства скульптурнай партрэтнай пластыкі. Кожны бюст — камерны і своеасаблівы той цеплынёй, якая зыходзіць ад твараў, адметны пластычнай мяккасцю, якая заварожвае і прафесіяналаў, і дылетантаў. А колькасць выстаўленых работ у межах невялікага памяшкання — больш за пяцьдзесят — магнетызуе і пазбаўляе магчымасці нешта аналізаваць. Перанасычанасць выставачнай плошчы ці не шкодзіць сапраўднаму ўспрыманню творчасці мастака. Але, тым не менш, партрэты**

**Г. Мурамцава ўражваюць. Тут мае ролю і каталог выставы, зроблены адметна, колерава, са шматлікімі здымкамі мастака і яго твораў.**

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*На здымку: партрэт народнага пісьменніка І. Мележа. 1977г.*

ПАМЯЦЬ

# Дадумваць і любіць да канца...

### СЛОВА ПРА УЛАДЗІМІРА БОЙКУ

***2 красавіка спаўняецца год з дня смерці Уладзіміра Бойкі — журналіста, крытыка, мастацтвазнаўцы, былога супрацоўніка "ЛіМа". Ён пайшоў ад нас неспадзявана, заўчасна. Гэта была балючая страта для ўсіх, хто яго ведаў.***



Мне ў апошнія гады выпала блізка пазнаёміцца з Уладзімірам Андрэевічам, рабіць з ім адну справу, сябраваць. Мінае год, як яго няма з намі, а я не магу пазбыцца адчування, што аўра гэтага чалавека яшчэ дзесьці тут, побач, яшчэ нагадвае пра сябе...

Гэта была па многіх мерках унікальная асоба. У пачатку 70-х, не маючы сталага месца працы, перабіваўся заробкамі на радыё і тэлебачанні, ганарарамі за публікацыі, супрацоўнічаў як кніжны мастак з выдавецтвамі. Неяк у размове пагадзіўся, што — так, здолеў рэалізаваць у жыцці ідэал "вольнага творцы", не залежаў ад знешніх акалічнасцей ні ідэйна, ні матэрыяльна. Такое магчыма, зразумела, у выпадку жыцця сціплага і выключна творчага.

Унікальны ён быў і ў саміх творчых праявах. Бо хто змог бы адначасова займацца гісторыяй мастацтва, тэле- і радыёжурналістыкай, публіцыстыкай, літаратурнай крытыкай і ў дадатак — кніжнай графікай? Вядома ж, толькі чалавек нетрывіяльных творчых здольнасцей (між іншым, яшчэ і паэт, які не асмеліўся друкаваць свае вершы з-за іх нібыта "прыватнага" характару).

Ён не пакінуў нам шматлікіх тоўстых кніжак, таго, што прынята называць "багатай творчай спадчынай". Мне заўсёды здавалася, што Уладзімір Андрэевіч не вельмі дбаў пра тое, каб даводзіць пачатае да канца, як бы непрагматычна ставіўся да рэалізацыі ўласных задум і выдання **уласных** кніг. Зараз у яго хатнім архіве засталіся дзесяткі папак з матэрыяламі па гісторыі мастацтва Беларусі, чарнавыя рукапісы кнігі пра Алеся Адамовіча. Ён як быццам не ўлічваў фактару часу, усё адкладваў пачатае "на потым". Бо — найбольш дбаў пра іншае: каб **дадумваць да канца**, перш чым нешта рабіць. І ў гэтым "дадумванні" ён таксама быў асаблівым.

Нямногія ведаюць пра тое, што сярод шматлікіх сур'ёзных захапленняў У. Бойкі першае, галоўнае месца займала кніга. Ён быў кніжнікам скрозь, існасна зліўся з кніжным светам, дасканала ў ім арыентаваўся і жыў у ім. Напэўна, з-за любові да кнігі самахоць авалодаў прафесіямі кніжнага мастака, мастацкага і тэхнічнага рэдактара. І працаваў з тымі аўтарамі і рукапісамі, якія адпавядалі яго высокім духоўным меркам. Працаваў з паэзіяй (Р. Тармола-Мірскі, Л. Паўлікава), з сур'ёзнай публіцыстыкай (А. Казловіч), філасофскай прозай ("Гульня шкляных перлаў" Г. Гесэ)... (Называю імёны, якія адразу ўспомніліся.) Знешне яго мастацкія рашэнні могуць быць успрыняты па-рознаму, на тое і густы. Але, бадай, толькі нямногім аўтарам — і мне ў тым ліку — вядомы **працэс**, што вёў мастака да канцэпцыі афармлення, па сутнасці — да канцэпцыі самой кнігі. Гэты мастак не "адзяваў" афармленне на кнігу, а — даставаў яго з кнігі, з самога тэксту. І таму бясконца доўга (як здавалася і мне, і іншым аўтарам) сядзеў сам-насам з рукапісам, ужываўся ў яго, уваходзіў у тканку тэксту, даймаў аўтара пытаннямі пра задуму, падтэкст, дзяліўся сваім разуменнем задумы і падтэксту. Урэшце пачынаў лепей арыентавацца ў творы, чым сам аўтар. Наколькі я разумею, гэта быў унікальна "непрафесіянальны" падыход, — бо аўтар макета галоўны высілак накіроўваў не на ўласна мастацкае рашэнне, а на герменеўтычную працэдуру **зразумення** тэксту, выдабывання яго сэнсу, ідэйнага зместу, усяго таго, што акрэсліваецца паняццем "метафізіка", і толькі потым, як вытворнае ад сэнсу, прапаноўваў афармленне. Гэта быў філасофскі, а не мастакоўскі падыход да кнігі.

Вядома, у мастацкіх рашэннях у такіх выпадках пераважае інтэлектуалізм і сімвалізм, прага ўвесці кнігу ў сферу ідэй. Таму

ПОШТА

# Дык дзе ж было Завоссе?

Менш за два гады засталося да 200-ай гадавіны з дня нараджэння нашага славутага земляка А д а м а  М і ц к е в і ч а.

Да гэтай даты распрацаваны шэраг мерапрыемстваў. Шмат што ўжо зроблена, як вядома, адбудавана сядзіба сям'і паэта ў Навагрудку, створана новая экспазіцыя. На чарзе адбудаванне хутара З а в о с с е.

У Баранавіцкім раёне, за Гарадзішчам, амаль за 50 км ад Навагрудка знаходзіцца месца, дзе стаіць абеліск, пастаўлены ў 1927 годзе і адноўлены ў 50-ыя гады, на якім напісана: "Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч".

Звернемся да даследчыкаў жыцця і творчасці А. Міцкевіча.

Усе яны сцвярджаюць, што А. Міцкевіч нарадзіўся на хутары Завоссе, які знаходзіўся недалёка ад Навагрудка, у ваколіцах Навагрудка, пад Навагрудкам, за 5 км ад Навагрудка, за 7 вёрст ад Навагрудка і г.д.

Міжволі паўстае пытанне: "Дык ці ж "міцкевіцкае" Завоссе знаходзіцца за 50 км ад Навагрудка?"

Нам здаецца, што больш слушна было б сказаць, што Завоссе знаходзіцца пад Баранавічамі, недалёка ад Гарадзішча.

З літаратуры ведаем, што Адам Міцкевіч нарадзіўся ў марозную калядную ноч, у прыдарожнай карчме "Выгода", недалёка ад Завосся, куды бацькі паэта ехалі ў госці, каб з роднымі адсвяткаваць каляды. Хаця ў той час сям'я Мікалая Міцкевіча жыла ўжо ў Навагрудку. А паводле В. Каратынскага (у нарысе "Некалькі падрабязнасцей пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць А. Міцкевіча") паэт наогул нарадзіўся ў Навагрудку. В. Каратынскі піша аб тым, што малаверагодна, каб 30-гадовая жанчына, чакаючы другое дзіця, магла ў марозную зіму адправіцца ў госці за 7 км (Завоссе?), улічваючы тое, што той год стаялі вельмі суровыя маразы. А калі за 50 км? Гэта зусім неверагодна.

Хрысцілі Адама ў Навагрудку, у фарным касцёле 12 лютага 1799 года (запіс у парафіяльнай кнізе пад N 315). А чаму не ў бліжэйшых Сталавічах? Тым больш, што яшчэ трымаліся маразы.

Вядома, што ўласнага дома ў Навагрудку ў Мікалая Міцкевіча ў той час яшчэ не было, а набыўшы пляц у бургамістра Фёдара Тычыны за 50 руб., бацька пачаў будаваць дом. Сям'я ў гэты час жыве ў Завоссі, якое пасля смерці дзядзькі Базыля Міцкевіча ў маі 1799 г. перайшло ў спадчыну Мікалаю Міцкевічу.

Дзе жыў у гэты час Мікалай Міцкевіч, адвакат навагрудскі? Можна меркаваць, што ў Завоссі разам з сям'ёю, на працу ездзіў на кані ў Навагрудак, калі Завоссе сапраўды знаходзілася за 7 вёрст ад горада. А калі за 50?

І далей у таго ж Каратынскага гаворыцца, што Жарновая гара, якую Адам бачыў з акна ў Завоссі, была самай высокай у ваколіцы, якая напамінала па форме велізарныя млынавыя жорны. Але самае высокае ўзвышша на навагрудчыне — гэта ваколіцы самога Навагрудка. А паглядзеўшы на невысокі ўзгорачак, які знаходзіцца зараз каля Завосся пад Баранавічамі, дык ён зусім не напамінае нам жорны.

У 1994 годзе ў Варшаве выйшла з друку кніга даследчыка жыцця А. Міцкевіча Яраслава Марэка Рымкевіча "Некалькі асаблівасцей", у якой аўтар налічыў у Навагрудскім павеце ажно 9 Завоссяў. Якое ж з іх было М і ц к е в і ч а ў с к і м?

Аўтар абапіраецца на даследаванні В. Каратынскага, Б. Крашэўскага, П. Хмялоўскага, А. Ельскага, Хлапіцкага, Е. Калленбаха і іншых і не можа зрабіць станоўчага адказу — дзе ж усё-ткі было Завоссе, у якім нарадзіўся А. Міцкевіч.

Дзе яно было?

Калі Э. Паўловіч у "Тыгодніку ілюстраваным" за 1883 год (N 14) апісвае Завоссе, якое было за 7 вёрст ад Навагрудка, як і В. Каратынскі—за 7 км ад Навагрудка, то яны, магчыма, мала памыліліся, таму што ў "Слоўніку геаграфічным" Каралеўства Польскага за 1895 год на стар. 395 апісаны тры Завоссі:

— "Калдычаўскае Завоссе" за 7 міль ад Навагрудка;

"Навагрудскае" — адлегласць не ўказана;

Завоссе побач з Новай Мышшу — 46 вёрст ад Навагрудка.

Звернемся да Завосся N 2 пад Навагрудкам. Гэта шляхецкая ваколіца Завоссе (памылкова Завошша) стаяла над рэчкай Осай (Оса), якая ўпадае ў рэчку Валоўку (Валоўню), павет навагрудскі, у 1-ай акрузе, гміна Любчанская. Засценак стаяў пры дарозе (гасцінцы), паміж мастком на Негнявічы і мастком, які вядзе на Дзеляцічы — Любчу. Мясцовасць гарыстая, бязлесная.

У спісах жыхароў Навагрудскага павета Гродзенскай губерні за 1832 год знаходзім прозвішчы людзей, з якімі сябравалі бацькі паэта, былі ў сваяцтве. Усе яны жылі ў першай акрузе, там, дзе стаяў хутар Завоссе:

— Тараевіч Франц з Пуцавічаў (пазней цесць Аляксандра Міцкевіча);

— Тараевіч Канстанцін — вотчынны надзел "Прыўлока";

— Сідаровічы — вотчынны надзел "Прыўлока";

— Алізаровічы — вотчынны надзел "Прыўлока";

— Вайніловічы, вотчынны надзел "Прыўлока", землі ў вёсках:

Касцюкі, Борышын. У памешчыка Вайніловіча была карчма "Выгода";

— Н. Растоцкі — з Руты;

— Ян Керсноўскі — гаспадар Гарадзілоўкі;

— І. Грэчыха — з Зубкава;

— Ст. Бжэзоўскі — з Незнанава і г.д.

Усе гэтыя фальваркі знаходзіліся вакол Навагрудка і ў першай акрузе. У "Рэаліях Міцкевічаўскіх" Падгорскі-Аколаў піша, што даследчык **Кабылінскі** памылкова ўказаў, што быццам бы Вінцэнт Стыпулкоўскі — швагер Мікалая Міцкевіча — арандаваў фальварак у Новай Мышы, а заадно і ў Завоссі, якія знаходзіліся недалёка адзін ад аднаго. Магчыма, адтуль пайшла гэтая блытаніна, бо В. Стыпулкоўскі ніколі не арандаваў Новай Мышы.

Хлапіцкі ў 1862 годзе, вандруючы па Навагрудчыне, сустракаўся і размаўляў з Канстанцінам Туганоўскім, які паведаў, што будучы вучнем навагрудскай школы, жыў на кватэры ва ўдавы Барбары Міцкевіч, маткі паэта. Пані Барбара часта расказвала пра сваю сям'ю, і казала, што наймалодшы сын Антон нарадзіўся ў Асаўцы (Осаве) (можа, толькі падабенства слоў). Антон памёр ад коклюшу ці шкарлятыны і пахаваны на могілках у Завоссі за карчмой, за сасновым ляском.

Зноў паўстае пытанне: чаму, жывучы ў Навагрудку, у 1810 годзе яны вязуць хаваць дзіця ў няблізкае Завоссе? Можна дапусціць, што Завоссе было блізка ад Навагрудка і што там знаходзіліся сямейныя могілкі Міцкевічаў.

У "Памятнай кнізе", выдадзенай да 100-годдзя з дня нараджэння А. Міцкевіча, А. Ельскі цытуе пісьмо Люцыяна Скуратовіча, унука Барбары Стыпулкоўскай (роднай сястры Мікалая Міцкевіча), у якім паведамляе, што дастаў фальварак Бяла ад Стыпулкоўскіх у спадчыну. Фальварак Бяла размешчаны ў 1-ай вярсце ад Завосся, а брат ягоны жыве недалёка ў Скрабаве.

І зноў пытанне? Дзе ж гэтае недалёкае Скробава? Ці не гэтае Скробава, што знаходзіцца за Валковічамі ў бок Карэліч?

Далей. Я. Рымкевіч знаходзіць апісанне могілак у Завоссі, тых, што за карчмой, за сасновым ляском: "Могілкі знаходзіліся тут жа за сасновым ляском, пры тракце паштовым. Ад поўначы, з боку фальварка Хмялеўскіх, мінаючы могілкі на ўскрайку

сам Уладзімір Андрэевіч паралельна існаваў у плоскасці філасофіі (вельмі цаню сучасніка М. Мамардашвілі); пастаянна купляў навінкі з галіны паліталогіі, псіхалогіі, сацыялогіі... Ён паспяваў за сучаснай думкай, заўжды быў на інтэлектуальнай вышыні. Напэўна, менавіта далучанасць да агульнага духоўнага кантэксту тлумачыць яго выключную асабістую сціпласць: ён пастаянна падкрэсліваў залежнасць творцы ад агульнага стану культуры, ад гістарычнай традыцыі ў той ці іншай галіне мастацтва, звяртаў увагу на шкоду, якую нясе творцы пыха, неадукаванасць, беспадстаўная абсалютызацыя сваіх здольнасцей. Неадназразова прыводзіў у прыклад сціпласць і інтэлігентнасць Міхася Стральцова, з якім пэўны час працаваў і доўга сябраваў. Сціпласць была для яго сінонімам інтэлігентнасці, а ідэал інтэлігентнасці ён выводзіў ад М. Багдановіча, якога мог бясконца цытаваць, згадваць у розных кантэкстах... Брак агульнай духоўнай культуры — вось што яго засмучала найбольш і ў сучасным мастацтве, і — скажу шчыра — у сучасніках. Яму балела за нашу мястэчковасць — і ў палітыцы, і ў культуры (у тым ліку і ў культуры кнігі). Яму ва ўсім, нават у дробязях побыту, прагнулася ДАСКАНАЛАСЦІ... Выйсце для творцы бачыў толькі ў адным: у як мага большым самаразвіцці, пастаянным духоўным самавыхаванні і самаадукацыі. Здаецца, рэцэпт банальны, але ў цяперашніх варунках і такія банальныя рэчы вымагаюць няспыннага паўтарэння...

Думаю, цяпер стане зразумела наступнае — чаму Уладзімір Андрэевіч быў такі, які быў, навошта процьму асабістага часу аддаваў на размовы з аўтарамі, а падчас і выпадковымі людзьмі. У ягоным кабінеце заўжды сядзеў нехта з маладых, і вяліся шматгадзінныя гутаркі ўсё пра тое ж: што такое мастацтва? што такое літаратура? што такое культура? У яго заўсёды хапала часу на людзей, на жывы кантакт з імі, як не бракавала гасціннасці і гаспадыні дому Ліліі Іосіфаўне Брандабоўскай: прымаць гасцей, частаваць кавай і печывам, займаць дасціпным слоўцам... Думаю, не адзін я застаюся ўдзячным спадарам Бойкам за тыя шмат у чым адукацыйныя вечары.

Ён ДАРЫЎ сябе — вось як можна акрэсліць сутнасць гэтага чалавека адным словам. Дарыў у кабінеце, у рэдакцыі, па тэлефоне, на вуліцы. Ён нікуды ад чалавека не спяшаўся, нязменна меў час і настрой пагаварыць. Ці многа ў нас такіх зараз?..

Вартасць і вага чалавека ў культуры не можа зводзіцца толькі да знешняга, аб'ектыўнага: збору твораў, грамадскай заангажаванасці. Застаецца яшчэ нешта, не залежнае ад часу, тое, што ў нашым часе сталася адчужаным, як бы другарадным: праявы душы, **суб'ектыўнае**, жывы дар з сябе — для ўсіх. Уласна, гэта вышэй за вузка зразуметую культуру; гэта сфера духоўнага высілку, дзякуючы якому людзі пераймаюць ад людзей сапраўдныя каштоўнасці, пакаленні вучацца ў пакаленняў, святло адольвае цемру. Толькі ў суб'ектыўным полі, не ў музеях і не на кніжных паліцах, разгортваецца барацьба дабра і зла, і чалавек сапраўды становіцца чалавекам. Можа, менавіта такое разуменне культуры бліжэй да ісціны: культура як праца душы, як асабісты энергетычны ўплыў на рэчаіснасць з жаданнем яе, рэчаіснасць, "аблагародзіць". За такую жыццёвую пазіцыю людзі ніколі не атрымлівалі дзяржаўных прэмій і гучных званняў, а калі што і атрымлівалі, дык толькі ўдзячную памяць тых, хто жыў з імі побач.

Лічу, што Уладзімір Андрэевіч Бойка ў вышэйшай ступені рэалізаваў сябе ў тым апошнім разуменні слова "культура". Трэба дарыць сябе. Дарыць, спаўняючы тым адзіны абсалютны закон, устаноўлены "прежде всех век": закон любові. Усё міне: улада і вядомасць, грошы і здароўе; усё адноснае. Застанецца толькі адзін, вечны крытэрый — чалавечнасць, любоў да бліжняга, вера ў Вышэйшае. У. Бойка жыў гэтым крытэрыем, таму далейшае належыць ужо не нам — належыць Вышэйшаму Суддзі...

**Юрась ЗАЛОСКА**

г. Люблін, Польшча

# Пятро ГАРЭЦКІ

**17 сакавіка 1997 года на 78-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы ўкраінскі паэт Пятро Гарэцкі. Апошнія гады ён жыў у Мінску, быў на ўліку ў беларускай пісьменніцкай арганізацыі.**



Пятро Ігнатавіч Гарэцкі нарадзіўся 26 чэрвеня 1919 года ў сяле Максімільянаўцы Мар'інскага раёна Данецкай вобласці. Скончыў Ужгарадскі універсітэт (1956). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Творы Пятра Гарэцкага пачалі з'яўляцца ў друку з 1936 года. Убачылі свет яго паэтычныя зборнікі "Дружба", "Мая любоў", "Вечнае цяпло", "Восеньскія пракосы", "З дарог жыцця", у якіх ён услаўляў дружбу народаў, апяваў стваральную працу чалавека, прыгажосць роднага краю.

На ўкраінскую мову пераклаў асобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Глебкі, П. Прыходзькі, М. Танка і іншых паэтаў.

У апошнія гады Пятро Гарэцкі шмат пісаў вершаў пра дружбу ўкраінскага і беларускага народаў, пра тыя карані, што яднаюць нас, змяшчаў свае творы ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях у перакладах вядомых беларускіх паэтаў.

У выдавецтва "Мастацкая літаратура" здадзены зборнік вершаў Пятра Гарэцкага ў перакладзе на беларускую мову, які, на вялікі жаль, ён ужо не ўбачыць.

Светлы вобраз пісьменніка, чалавека чыстага сумлення і шчодрай душы, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь глыбока смуткуе з прычыны смерці члена Саюза пісьменнікаў Украіны Пятра Ігнатавіча ГАРЭЦКАГА, які доўгі час жыў і працаваў на Беларусі, і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.**

сасновага барка, уеццa тракт навагрaдскі, з якім збягаецца дарога са Скробава, Трасевіч, Туганавіч і Цырына да Сталавіч".

Што нам яшчэ вядома пра Завоссе? І. Дамейка ў 1887 годзе ў "Тыгодніку ілюстраваным" піша: "Завоссе — гэта малюткі шляхецкі засценак". П. Хмялоўскі ў 1-ым томе "А. Міцкевіч" 1886 г. (стар. 18) піша: "У маі 1799г. памёр Базыль Міцкевіч, гаспадар фальварка ў Завоссі, міль сем, болей ці меней, ад Навагрaдка. Завоссе, то так званая "ваколіца", дзе жыла дробная шляхта. Дамы там належалі розным гаспадарам, размешчаныя на розных адлегласцях адзін ад другога ад галоўнай дарогі, быццам асобныя фальваркі". Дзіўна, але гэта як бы перапісана са слоўніка пра Завоссе N 2.

В. Каратынскі ў нарысе "Некалькі падрабязнасцей..." піша, што, вандруючы па Навагрaдчыне ў 1858 годзе, наведаў Завоссе, і пабачыў, што ўжо ў той час яно было зморшчана і пахілена да зямлі, дворык перайшоў у чужыя рукі".

За некалькі гадоў перад смерцю Н. Орда (а ён памёр у 1883 г.) малюе Завоссе, на якім мы бачым яшчэ даволі моцны будынак і гаспадарчыя забудовы. Дык якое Завоссе намаляваў Орда?

Зноў жа, у памятнай кнізе да 100-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча (1898 г.) А. Ельскі цытуе ліст, які напісаў да яго Люцыян Скуратовіч у лістападзе 1897 г. Л. Скуратовіч — унук Барбары Стыпулкоўскай — цёткі А. Міцкевіча. З ліста бачым, што ён жыве ў фальварку Бяла. Яшчэ раз нагомнім, гэта ён напісаў, што Завоссе знаходзіцца ў 1-ым кіламетры ад Бяла.

Б. Крашэўскі ў артыкуле "З зямлі навагрaдскай" у часопісе "Край" N 51 за 1897 год піша, што на той час у Завоссі знаходзіцца яшчэ старасвецкі двор побач з другім, новым. (Захаваліся лямус, свіронак, студня, стадола).

А ў перапісе насельніцтва 1921 года Рэчы Паспалітай пад NN 81, 82, 83 знаходзім тры Завоссі ў Гарадзішчанскай гміне. Другіх Завоссяў на той час на картах не захавалася. Чытаючы гэты перапіс, здзіўляешся, што ні адзін з тых жыхароў, якія жывуць у Завоссях, не назваў сябе палякам, католікам. Усе назвалі сябе беларусамі праваслаўнага веравызнання.

Што сталася з засцянковай шляхтай, якая ганарылася сваім шляхецкім паходжаннем, сваёю польскасцю?

На аснове вышэйпрыведзеных фактаў можна паставіць пытанне: дык дзе ж было міцкевічаўскае Завоссе? Пад Гарадзішчам? Пад Новай Мышшу? Пад Навагрaдкам?

Мы лічым, што пад Навагрaдкам, якое падаецца ў Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага за 1895 год пад N 2.

**Л. УСЕНКА, С. АНІСІМАВА,**
**навуковыя супрацоўнікі Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрaдку**

# Сцяною крапасною ахініся...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

станоўчую эмацыянальную хвалю. Гэтак жа нехта гадамі чытае пэўную старонку ці мясціну ў кнізе, бо менавіта яна мае для яго псіхатэрапеўтычны эфект".

**А. Осіпава:** "Доўгі час па тэлебачанні круцілі вельмі прымітыўны рэкламны ролік са спявачкай Аленай Зосімавай. Круцілі па шмат разоў на дзень. Прымітыўнае, бездапаможнае спяванне, аднак жа прозвішча міжволі запомнілася. І якое ж было маё здзіўленне, калі ля камерцыйнага кіёска пачула ад дзяўчынак-школьніц, з якім захапленнем яны гаварылі пра гэтую спявачку. Гэта, безумоўна, унушанае ўспрыманне, можна сказаць, успрыманне кадзіраванае, якое сталася вынікам назойлівага шматразовага паўтарэння. Потым я пачула інтэрв'ю гэтай самай Алены Зосімавай: яна аказалася дачкою шоу-бізнесмена, які менавіта дзякуючы ёй, дачцэ, стаў вядомым бізнесменам. Як кажуць, камерцыя — любімі сродкамі".

**А. Чуменка:** "Тым не менш, на псіхалогію многіх, тых самых дзяўчынак, на іхнія пачуцці гэта мела ўздзеянне. Гэта як своеасаблівы гіпноз. А пра культуру тут гаварыць, бадай, няма патрэбы, бо якую культуру можна прывіць ці выхаваць сродкамі бізнесмена Зосімава? А, між тым, колькі падобных твораў "мастацтва" на экранах тэлевізараў, у кніжных кіёсках?"

**А. Міхайлоўская:** "Методыка яго ўздзеяння досыць простая. Спачатку музыка табе не падабаецца, пасля да яе прывыкаеш, затым яе слухаеш, ужо вылучаючы нейкія сэнсавыя элементы, і ўрэшце гэтыя элементы выступаюць ужо як неўсвядомленая праграма да дзеяння — ты ўжо яе напяваеш. Значыць, што б ні спявалі ў тых тэлевізійных роліках — усё мае дачыненне да нашай агульнай культуры".

**А. Осіпава:** "Цалкам згодная з гэтым. Вялікая колькасць фільмаў, якія нясуць элементы жахаў, гвалту, парнаграфіі, маюць псіхагенны эфект. Адсюль жорсткасць, агрэсіўнасць нашых людзей, асабліва дзяцей, падлеткаў. Калі чалавек не падрыхтаваны да ўспрымання такіх фільмаў (не стае культуры ўспрымання, дагэтуль не сфарміраваны маральныя ўстаноўкі), яны для яго — як сігнал да дзеяння, штуршок на злачынства, на кепскія, амаральныя, антыграмадскія паводзіны".

Пад канец гаворка выкіравалася на пытанні адносна нашага нацыянальнага менталітэту, нацыянальнай псіхалогіі беларусаў, а таксама на пытанні, звязаныя з сённяшнім вяртаннем, ці зваротам нашых людзей да Бога, да рэлігіі. Вось што давялося пачуць.

**А. Чуменка:** "Мне думаецца, што славутая цярплівасць, рахманасць, пакорлівасць больш прыпісваецца беларусам, чым ёсць гэта на самай справе".

**А. Осіпава:** "Талерантнасць, ураўнаважанасць, маўклівае прыняцце ўсяго, што звальваецца на нашы галовы, пакорлівасць, абыякавасць да ўласнага лёсу — чаму гэта ўзносіцца да нябёсаў, выдаецца за станоўчыя нацыянальныя рысы характару? Усё, што адбываецца ў нашай краіне, у мяне асабіста, як і ў тысячах, мільёнах іншых людзей, выклікае пачуцці безвыходнасці, што з'яўляецца кампенсуючым фактарам маёй (людской) абароны. Каб было мне не гэтак балюча, каб мне штодня не лезці на ражон, лепш я буду абыякавай, лепш прамаўчу і патрываю".

**А. Чуменка:** "Вось, вось! А палітыкі нашы, сродкі масавай інфармацыі гэтым якраз і карыстаюцца. Калі ёсць хоць трошкі падрыхтаваная глеба, чаму ж не кінуць у яе сваё зерне? Палітыкі карыстаюцца тымі ж прыёмамі ўнушэння, што і гіпнатызёры: бясконцы паўтор адных і тых жа фраз, абяцанні дабрабыту, шчасця, падмацаваныя невербальнымі жэстамі. І ўсё гэта — надзвычай пераканаўча, гранічна шчыра, голас трымціць, з вачэй вось-вось пакоціцца сляза, далоні то прыкладаюцца да грудзей, то разгортваюцца да публікі — усё ўнушае давер да таго, што гаворыцца. Паўтараю, гэта ўсё прыёмы гіпнатызёраў. Слухаць, успрымаць такога палітыка трэба бяздумна, бо калі ўдумацца, дык, найчасцей, падобныя запэўніванні і абяцанні пазбаўлены ўсялякага рэальнага зместу.

Мне думаецца, што цяперашняя сацыяльна-эканамічная безвыходнасць падштурхоўвае людзей і да рэлігіі. Сябе я не адношу да веруючых людзей. Для мяне асноўная іпастась веры — сам чалавек і яго ўнутраныя сілы, ягоная вера ў сябе. І калі людзі ў паважным узросце раптам пачынаюць звяртацца да Бога, гэта выклікае ў мяне вялікую долю скепсісу і сумнення. Мне падаецца, што гэта не вера ва Усявышняга, гэта хутчэй перакладванне адказнасці з сябе на некага іншага, у дадзеным выпадку на Бога. Ці не ад унутранай слабавольнасці ідзе чалавек у рэлігію?"

**А. Осіпава:** "Ёсць, безумоўна, і іншыя прычыны. Прыгадаем шматлікія прыклады ўцягвання дзяцей у розныя секты. Многія з ахвяр мелі, здаецца, усё — кажу пра матэрыяльны бок справы, але не мелі дабрабыту душэўнага, не мелі ўзаемаразумення, сямейнага цяпла. А ў секце яны, гэтак ім здавалася, знаходзілі і гэта: душэўнае апірышча і падтрымку. Але бываюць, вядома, і іншыя сітуацыі. Калі гаварыць пра сталых людзей, дык вось вам сітуацыі: памёр адзіны самы блізкі чалавек, жанчыну пакінуў муж, напаткала нейкая іншая бяда. Вось тут і аказваюцца бліжэй да іншых падказчыкі: аддай сваё жыццё Богу і Бог цябе палюбіць. Тым не менш, рэлігію, царкву цалкам адмаўляць нельга, бо яна ўсё ж, што б мы, атэісты, ні гаварылі, з'яўляецца захавальніцай хрысціянскай, гэта значыць, чалавечай маралі, прынцыпаў дабра і справядлівасці".

**А. Міхайлоўская:** "Тым больш, што людзі звяртаюцца да Бога ўсё ж не толькі таму, што перакладаюць адказнасць за сваё жыццё на некага іншага. Разам з вераю да чалавека прыходзіць і нешта такое, чаму ён не знаходзіць вытлумачэння, але што можна назваць тымі словамі, якія азначаюць канчатковы і галоўны вынік нашае працы, — душэўная ўладкаванасць, унутраная раўнавага. А гэта зусім і нямала, асабліва ў наш складаны, цяжкі і надта ж няпэўны час".

Вось, уласна кажучы, і ўсё — у сціслым, канспектным пераказе. А гаварылася яшчэ пра многае і рознае. Пра стрэсы сямейныя і стрэсы вытворчыя (службовыя). Пра пазітыўнае і негатыўнае ў нашым жыцці і ў нашых чалавечых паводзінах. Пра магчымасці чалавечага арганізма, якія на самай справе велізарныя, і пра наша няўменне скарыстоўваць іх і кіраваць імі. І, вядома ж, пра тое, з чаго я пачала свой гэты аповед, — пра ролю псіхолага ў нашым жыцці, пра недаацэнку іхняе ролі большасцю з нас, пра тое, што гэта — паказчык не надта высокай духоўнай, інтэлектуальнай культуры нашага постсавецкага грамадства. А між тым, чалавек — гэта ўсё ж гома сапіенс, і паводзіць ён сябе павінен у адпаведнасці са сваім розумам, кіравацца не інстынктамі, а свядома набытымі ведамі і вопытам. Гладкай і лёгкай дарогі ў жыцці не бывае, яе не выбудуеш адразу і на ўсе адмераныя чалавеку гады. У часе хваробы (цела) чалавеку на дапамогу прыходзіць урач. А ў часе хваробы душы павінен прыйсці на дапамогу псіхолаг. Самотна табе, журботна, непамысна, дыскамфортна, трывожна? Звярніся да твайго дарадца і памочніка — да псіхолага. Знай: ён дапаможа табе паверыць у сябе, прагнаць прэч трывогі і благія прадчуванні. З яго дапамогаю ты ахінеш сябе крапасною сцяною спакою, раўнавагі, цвярозай памяркоўнасці, веры ў заўтрашні дзень.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ВЕРНІСАЖ

Малюе Аркадзь Гурскі


















***Некалькі год назад я пазнаёміла***
***чытачоў "ЛіМа" з філалагічнымі***
***адкрыццямі Філона Тутэйшага,***
***студыёзуса з Мінска.***
***Было весела смяяцца***
***з шэдэўраў гэтага нехлямяжага,***
***але часам і дасціпнага***
***экземпляра нашай тутэйшасці —***
***здавалася, смеючыся,***
***мы развітваемся са сваёй***
***нехлямяжасцю на чарговым вітку***
***нашага адраджэння.***
***Хто ён цяпер, Філон Тутэйшы,***
***на парозе беларускага***
***выраджэння?***
***Пры ўсіх канстытуцыях жыў,***
***пад усімі сцягамі хадзіў,***
***а ўсё роўна філон філонам,***
***толькі нахабства пабольшала.***
***Скажаш слова супраць***
***яго і зажурышся:***
***такое на цябе напішуць***
***"лебрэнда"...***
***Таму проста прапаную чарговую***
***порцыю філанізмаў.***

**Люба ТАРАСЮК**

# Філанізмы

Вобраз мужыка-працаўніка заўсёды прысутнічаў у творчасці пісьменніка, не зважаючы на аніякія перыяды яго літаратурнай дзейнасці.

Ён гуляў выхаваўчую ролю ў жыцці беларусаў.

Беларусь паглынае цябе. Твае лёгкія перапаўняюцца свежым, вольным паветрам, ад якога муціцца ў галаве, а вочы не ведаюць, на што глядзець.

У гэтым творы шмат лірычных адступленняў, але яны пададзены так лаканічна, што іх не заўважаеш.

Мінулае ўяўляецца нам як нешта таямнічае, загадкавае, захутанае ў павуцінне.

Ад іх (пісьменнікаў) веяла свежыной і нечым навасмечаным.

Спачатку гэты твор друкаваўся ананімна, не падпісваўся, а потым падпісаўся.

Галоўнымі героямі з'яўляюцца ці то два, ці то тры.

Заходнерусізм — гэта русізм з захаду.

Верш носіць плаксівыя ноткі.

У гэты час у Беларусі было многа пісьменнікаў. Адны з іх былі лепшыя, другія горшыя.

Ён перажываў з героем у наваколлі сацыяльных абставін.

Самі дэталі сваёй звычайнасцю, будзённасцю зліваюцца з прастатой.

Сюжэт першай балады пакладзены на легенду.

Спачатку сюжэт чарадзейнай казкі быў просты, а пасля ўсё заблытваўся.

Пасля адыходу Беларусі ад Польшчы Польшча пазбавілася беларускага фальклору.

У той час у беларускай паэзіі вершаваных радкоў не было.

Гэты вобраз жыве заўсёды ў вадзе (вадзянік).

Валачобныя песні — гэта галашэнні, гэта калі чалавека некуды забіраюць.

Героі заўсёды жывуць і размаўляюць.

Вялікае месца ў паэме займае рытм. Таксама ў паэме сустракаецца эпітэт.

Бачачы цяжкае становішча сялян, пачынае развівацца нацыянальна-вызваленчы рух.

У асноўным яго творчасць састаіць з вершаў.

Па жанры гэта букіністычны твор.

Яго лірызм ідзе ад хваробы.

У творы апяваецца каханне, яднанне мужчыны і жанчыны, калі чалавек адрываецца ад сваёй зямной абалонкі і зліваецца з наваколлем.

Рамантык выкарыстоўвае словы, якія ўжывае народ.

У вершы прысутнічае паўтарэнне слоў "туды", "туды", і гэта паказвае на быстры ход часу.

Пагоня — гэта ўсаднік на калі. Зараз ён абазначае хуткую дапамогу.

Ідэя Адраджэння Беларусі ўяўляла сабой велізарны кацёл, дзе кіпелі думкі і ідэі.

Пісьменнік апісваў таксама прыгнятальнае права беларускага народа.

За ім сачыла паліцыя і схапіла б, калі б не памёр.

Ён пісаў аўтографы да сваіх вершаў.

У гэтым творы многа эпітэтаў і параўнанняў. Яны надаюць твору прыгожую акраску.

Гэты твор мае вялікае гісторыка-літаратурнае значэнне. Яго можна выкарыстоўваць як своеасаблівую энцыклапедыю.

Цяжка знайсці такія словы, каб ва ўсёй жудасці паказаць невымерныя пакуты працоўных мас беларускага народа на працягу многіх стагоддзяў.

---

У Пільштыновай былі тры мужы. Яна іх забівала адзін за другім.

А. Міцкевіч ездзіў у Парыж выкладаць беларускую мову.

Пазма А. Міцкевіча "Тадэвуш Касцюшка".

Міцкевіч паставіў сцэну наезда на Літву.

Многія пісьменнікі пісалі свае пазмы, параўноўваючы іх з пазмай "Пан Тадэвуш".

Не захаваліся б вершы Я. Баршчэўскага, калі б у 1839 г. царскі ўрад не знізіў палітыку.

Твор Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня" складаецца з апавяданняў, якія пранумераваны. А потым ужо, калі Я. Баршчэўскі вымушаны быў вяртацца назад, то паведамленне ідзе без усялякіх нумерацый.

Я. Баршчэўскі як бы законспіраваў праз гэтыя цуды, нячыстую сілу, розныя з'явы, якія адбываліся ў той час.

"Шляхціц Завальны".

Гэты шляхціц — добры экземпляр нашага роднага беларускага шляхціца, чалавек гасцінны, душэўна добры. Але хворы на бяссонніцу. І гэтая яго хвароба і гасцінасць з'яўляюцца арганізуючым стрыжнем кнігі.

У яго не было грошай, і ён паехаў вучыцца ў Ленінград.

Герой гэтага верша хоча пераапрануцца ў ваўкалаку.

---

Як мы ведаем, Дунін-Марцінкевіч пісаў на лацінскай і беларускай мовах.

Дунін-Марцінкевіч быў хворы, і калі студэнтаў павялі ва ўсыпальню, ён самлеў.

Жыўшы ў фальварку Люцінка, у яго доме збіраліся ўсе інтэлігентныя сілы Мінска.

Дунін-Марцінкевіч не мог глядзець, як здзекуюцца з сялян. Ён не мог быць у трупярні.

Ёсць гіпотэза, што Дунін-Марцінкевіч вучыўся і ў Пецярбургскім універсітэце. Але потым ён кінуў вучобу і пайшоў у трупярню працаваць.

Ён хацеў ісці ваяваць, але ён быў хворы на адно плячо, і яго не дапусцілі. Ён не меў магчымасці ісці на вайну і пагэтаму ён пісаў п'есы аб вызваленні сялян.

За ўдзел у падзеях 1863 г. яго пасадзілі ў турму ў Люцынку.

На тое, што Дунін-Марцінкевіч займаўся асветніцкай дзейнасцю, указвае той факт, што яго пасадзілі ў Мінскі астрог на пэўны час.

Дунін-Марцінкевіч быў добрым канспіратарам, таму яго творы былі не знойдзены.

Дунін-Марцінкевіч пісаў смешнай мовай.

Дунін-Марцінкевіч карыстаўся псеўданімам Мацей Бурачок.

Дзяцей Дуніна-Марцінкевіча называлі дзецьмі Гапона.

Каміла Марцінкевіч прымала ўдзел у антырэлігійным паўстанні ў Мінску.

Дунін-Марцінкевіч не мог пісаць свае творы ў Люцінцы. Так як быў страх, што ўвойдуць і знойдуць.

Пад тварам настаўніцтва ў школе хаваліся рэвалюцыянеры.

Ён хацеў, каб уводзілі асветніцтва ў сялянскія колы.

*(Працяг будзе)*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ**
**З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ —** *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП —** *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня
"Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5040
Нумар падпісаны 27.3.1997 г.
Заказ 1703/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12